ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Комуністычнае выхаванне

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР








МАЙ
№ 5
1935

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

# Прамова таварыша Сталіна

## на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года

Таварышы! Нельга адмаўляць, што за апошні час мы мелі вялікія поспехі як у вобласці будаўніцтва, так і ў вобласці кіравання. У сувязі з гэтым надта многа гавораць у нас аб заслугах кіраўнікоў, аб заслугах правадыроў. Ім прыпісваюць усё, амаль усе нашы дасягненні. Гэта, вядома, няверна і няправільна. Справа не толькі ў правадырах. Але не аб гэтым я хацеў-бы гаварыць сёння. Я хацеў-бы сказаць некалькі слоў аб кадрах, аб нашых кадрах наогул, і ў прыватнасці аб кадрах нашай Чырвонай арміі.

Вы ведаеце, што мы атрымалі ў спадчыну ад старога часу адсталую тэхнічна і поўжабрацкую, разораную краіну. Разораная чатырма гадамі імперыялістычнай вайны, паўторна разораная трыма гадамі грамадзянскай вайны, краіна з поўграматным насельніцтвам, з нізкай тэхнікай, з паасобнымі аазісамі прамысловасці, тануўшымі сярод мора драбнейшых сялянскіх гаспадарак,—вось якую краіну атрымалі мы ў спадчыну ад мінулага. Задача састаяла ў тым, каб гэтую краіну перавесці з рэек сярэдневякоўя і цемнаты на рэйкі сучаснай індустрыі і машынізаванай сельскай гаспадаркі. Задача, як бачыце, сур'ёзная і трудная. Пытанне стаяла так: **або** мы гэтую задачу вырашым у найкарацейшы тэрмін і ўмацуем у нашай краіне соцыялізм, **або** мы яе не вырашым, і тады наша краіна—слабая тэхнічна і цёмная ў культурных адносінах—растраціць сваю незалежнасць і ператворыцца ў аб'ект ігры імперыялістычных дзяржаў.

Наша краіна перажывала тады перыяд люцейшага голаду ў вобласці тэхнікі. Нехапала машын для індустрыі. Не было машын для сельскай гаспадаркі. Не было машын для транспарта. Не было той элементарнай тэхнічнай базы, без чаго нямысліма індустрыяльнае пераўтварэнне краіны. Былі толькі паасобныя прадпасылкі для стварэння такой базы. Трэба было стварыць першакласную індустрыю. Трэба было накіраваць гэтую індустрыю на тое, каб яна была здольна рэарганізаваць тэхнічна не толькі прамысловасць, але і сельскую гаспадарку, але і наш чыгуначны транспарт. А для гэтага трэба было пайсці на афяры і навесці ва ўсім самую жорсткую эканомію, трэба было эканоміць і на харчаванні, і на школах, і на мануфактуры, каб накапіць неабходныя сродкі—для стварэння індустрыі. Іншага шляху для зжывання голаду ў вобласці тэхнікі не было. Так вучыў нас Ленін. І мы ішлі ў гэтай справе па стапах Леніна.

Зразумела, што ў такой вялікай і труднай справе нельга было чакаць сплашных і быстрых поспехаў. У такой справе поспехі могуць абазначыцца толькі праз некалькі год. Неабходна было таму ўзброіцца

моцнымі нервамі, большэвіцкай вытрыманасцю і ўпорным цярпеннем, каб пераадалець першыя няўдачы і няўхільна ісці ўперад да вялікай мэты, не дапускаючы хістанняў і няўпэўненасці ў сваіх радах.

Вы ведаеце, што мы вялі гэтую справу такім іменна чынам. Але не ва ўсіх нашых таварышоў хапіла нерваў, цярпення і вытрыманасці. Сярод нашых таварышоў знайшліся людзі, якія пасля першых-жа затрудненняў сталі клікаць да адступлення. Гавораць, што „кто старое помянет, тому глаз вон". Гэта, вядома, верна. Але ў чалавека ёсць памяць, і нявольна ўспамінаеш аб мінулым пры падвядзенні ітогаў нашай работы (в я с ё л а е а ж ы ў л е н н е ў з а л е). Так вось, былі ў нас таварышы, якія спалохаліся труднасцей і сталі клікаць партыю к адступленню. Яны гаварылі: „Што нам ваша індустрыялізацыя і калектывізацыя, машыны, чорная металургія, трактары, камбайны, аўтамабілі? Далі-б лепш пабольш мануфактуры, купілі-б лепш пабольш сыравіны для вырабу шырспажыву і пабольш-бы давалі насельніцтву ўсіх тых дробязей, чым красен быт людзей. Стварэнне індустрыі пры нашай адсталасці, ды яшчэ першакласнай індустрыі—небяспечная мара".

Вядома, мы маглі-б тры мільярды рублёў валюты, здабытых шляхам самай жорсткай эканоміі і страчаных на стварэнне нашай індустрыі,— мы маглі-б іх скарыстаць на імпарт сыравіны і ўзмацненне вырабу прадметаў шырокага спажывання. Гэта таксама свайго роду „план". Але пры такім „плане" мы не мелі-б ні металургіі, ні машынабудаўніцтва, ні трактароў і аўтамабіляў, ні авіяцыі і танкаў. Мы аказаліся-б бяззбройнымі перад знешнімі ворагамі. Мы падарвалі-б асновы соцыялізма ў нашай краіне. Мы аказаліся-б у палоне ў буржуазіі, унутранай і знешняй.

Відавочна, трэба было выбіраць паміж двума планамі: паміж планам адступлення, які вёў і не мог не весці к паражэнню соцыялізма, і планам наступлення, які вёў і, як ведаеце, ужо прывёў да перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Мы выбралі план наступлення і пайшлі ўперад па ленінскаму шляху, адцёршы назад гэтых таварышоў як людзей, якія бачылі сяк-так толькі ў сябе пад носам, але закрывалі вочы на бліжэйшае будучае нашай краіны, на будучае соцыялізма ў нашай краіне.

Але гэтыя таварышы не заўсёды абмяжоўваліся крытыкай і пасіўным супраціўленнем. Яны пагражалі нам падняццем паўстання ў партыі супроць Цэнтральнага камітэта. Больш таго: яны пагражалі сяму-таму з нас кулямі. Як відаць, яны разлічвалі запалохаць нас і прымусіць нас звярнуць з ленінскага шляху. Гэтыя людзі, відавочна, забыліся, што мы, большэвікі,—людзі асобага пакрою. Яны забыліся, што большэвікоў не запалохаеш ні труднасцямі, ні пагрозамі. Яны забыліся, што нас каваў вялікі Ленін, наш правадыр, наш настаўнік, наш бацька, які не ведаў і не прызнаваў страху ў барацьбе. Яны забыліся, што чым сільней шалеюць ворагі і чым больш упадаюць у істэрыку праціўнікі ўнутры партыі, тым больш накаляюцца большэвікі для новай барацьбы і тым імклівей рухаюцца яны ўперад.

Зразумела, што мы і не думалі зварочваць з ленінскага шляху. Больш таго, умацаваўшыся на гэтым шляху, мы яшчэ імклівей пайшлі ўперад, змятаючы з дарогі ўсе і ўсякія перашкоды. Праўда, нам прышлося пры гэтым па дарозе памяць бакі сяму-таму з гэтых таварышоў. Але з гэтым ужо нічога не зробіш. Павінен прызнацца, што я таксама прылажыў руку да гэтай справы (б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы, в ы г у к і „у р а").

Так, таварышы, мы пайшлі ўпэўнена і імкліва па шляху індустрыялізацыі і калектывізацыі нашай краіны. І цяпер гэты шлях можна лічыць ужо пройдзеным.

Цяпер ужо ўсе прызнаюць, што мы дабіліся на гэтым шляху грамадных поспехаў. Цяпер усе прызнаюць, што мы маем ужо магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ўгару, арганізаваную і бліскуча аснашчаную Чырвоную армію.

Гэта значыць, што мы зжылі ўжо ў асноўным перыяд голаду ў вобласці тэхнікі.

Але, сжыўшы перыяд голаду ў вобласці тэхнікі, мы ўступілі ў новы перыяд, у перыяд, я-б сказаў, голаду ў вобласці людзей, у вобласці кадраў, у вобласці работнікаў, якія ўмеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе ўперад. Справа ў тым, што ў нас ёсць фабрыкі, заводы, калгасы, соўгасы, армія, ёсць тэхніка для ўсёй гэтай справы, але нехапае людзей, маючых дастатковы вопыт, неабходны для таго, каб выжаць з тэхнікі максімум таго, што можна з яе выжаць. Раней мы гаварылі, што „тэхніка вырашае ўсё". Гэты лозунг дапамог нам у тых адносінах, што мы ліквідавалі голад у вобласці тэхнікі і стварылі найшырэйшую тэхнічную базу ва ўсіх галінах дзейнасці для ўзбраення нашых людзей першакласнай тэхнікай. Гэта вельмі добра. Але гэтага далёка і далёка недастаткова. Каб прывесці тэхніку ў рух і скарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, ўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і скарыстаць гэтую тэхніку па ўсіх правілах майстэрства. Тэхніка без людзей, ўладаўшых тэхнікай,—мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, ўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды. Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, у нашай Чырвонай арміі мелася дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэтую тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекту ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер. Вось чаму ўпор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, ўладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг—„Тэхніка вырашае ўсё", які з'яўляецца адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяда, калі ў нас быў голад у вобласці тэхнікі,—павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што „Кадры вырашаюць усё". У гэтым цяпер галоўнае.

Ці можна сказаць, што нашы людзі зразумелі і ўсвядомілі поўнасцю вялікае значэнне гэтага новага лозунга? Я-б гэтага не сказаў. У адваротным выпадку, мы-б не мелі тых агідных адносін да людзей, да кадраў, да работнікаў, якія наглядаем нярэдка ў нашай практыцы. Лозунг „кадры вырашаюць усё"—патрабуе, каб нашы кіраўнікі праяўлялі самыя клапатлівыя адносіны да нашых работнікаў, да „малых" і „вялікіх", у якой-бы вобласці яны ні працавалі, вырошчвалі іх клапатліва, дапамагалі ім, калі яны маюць патрэбу ў падтрыманні, заахвочвалі іх, калі яны паказваюць першыя поспехі, вылучалі іх уперад і т. д. А між тым на справе мы маем у цэлым радзе выпадкаў факты бяздушна-бюракратычных і прама агідных адносін да работнікаў. Гэтым, уласна, і аб'ясняецца, што замест таго, каб вывучаць людзей і толькі пасля вывучэння ставіць іх на пасты, нярэдка кідаюцца людзьмі як пешкамі. Цаніць машыны і рапартаваць аб тым, колькі ў нас ёсць тэхнікі на заводах і фабрыках,—навучыліся. Але я не ведаю ні аднаго выпадку дзе-б з такой-жа ахвотай рапартавалі аб тым, колькі людзей мы вырасцілі за такі-то перыяд і як мы дапамагалі людзям у тым, каб яны раслі і загартоўваліся ў рабоце. Чым гэта аб'ясняецца? Аб'ясняецца гэта тым, што ў нас не навучыліся яшчэ цаніць людзей, цаніць работнікаў, цаніць кадры.

Я ўспамінаю выпадак у Сібіры, дзе я быў адзін час у ссылцы. Справа была вясною, у час разводдзя. Чалавек трыццаць пайшло на раку лавіць лес, унесены разбушаваўшайся грамаднай ракой. К вечару

вярнуліся яны ў вёску, але без аднаго таварыша. На пытанне аб тым, дзе-ж трыццаты, яны роўнадушна адказалі, што трыццаты „астаўся там“. На маё пытанне: „Як-жа так, астаўся?“—яны з тым-жа роўнадушшам адказалі: „Чаго-ж там яшчэ пытацца, затануў, стала-быць“. І тут-жа адзін з іх стаў спяшацца кудысьці, заявіўшы, што „трэба-б пайсці кабылу напаіць“. На мой папрок, што яны жывёлу шкадуюць больш, чым людзей, адзін з іх адказаў пры агульным адабрэнні астатніх: „Што-ж нам шкадаваць іх, людзей-то? Людзей мы заўсёды зрабіць можам. А вось кабылу... паспрабуй-ка зрабіць кабылу“. (Агульнае ажыўленне ў зале.)

Вось вам рыска, можа быць малазначная, але вельмі характэрная. Мне здаецца, што роўнадушныя адносіны некаторых нашых кіраўнікоў да людзей, да кадраў і няўменне цаніць людзей з'яўляецца перажыткам тых дзіўных адносін людзей, да людзей, якія сказаліся ў толькі што расказаным эпізодзе ў далёкай Сібіры.

Дык вось, таварышы, калі мы хочам зжыць з поспехам голад у вобласці людзей і дабіцца таго, каб наша краіна мела дастатковую колькасць кадраў, здольных рухаць уперад тэхніку і пусціць яе ў дзеянне,—мы павінны перш за ўсё навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, цаніць кожнага работніка, здольнага прынесці карысць нашай агульнай справе. Трэба, нарэшце, зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах „Кадры вырашаюць усё“. Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў—будзем кульгаць на абедзве нагі.

Заканчваючы прамову, дазвольце агаласіць тост за здароўе і праўспяванні нашых акадэмікаў—выпускнікоў па Чырвонай арміі! Жадаю ім поспеху ў справе арганізацыі і кіраўніцтва абаронай нашай краіны!

Таварышы! Вы скончылі вышэйшую школу і атрымалі там першую загартаванасць. Але школа—гэта толькі падрыхтоўчая ступень. Сапраўдная загартаванасць кадраў атрымліваецца на жывой рабоце, па-за школай, на барацьбе с труднасцямі, на пераадаленні труднасцей. Помніце, таварышы, што толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей, а наадварот—ідуць насустрач труднасцям для таго, каб пераадалець і ліквідаваць іх. Толькі ў барацьбе з труднасцямі куюцца сапраўдныя кадры. А калі наша армія будзе мець у дастатковай колькасці сапраўдныя загартаваныя кадры, яна будзе непераможна.

За ваша здароўе, таварышы! (Бурныя апладысменты ўсёй залы. Усе ўстаюць і гучнымі выгукамі „ура“ вітаюць таварыша Сталіна.)

*Н. К Крупская*

# Інтэрнацыянальнае выхаванне дзяцей у пачатковай школе

Пытанне аб інтэрнацыянальным выхаванні дзяцей у пачатковай школе мае сур'ёзнейшае значэнне. Трэба сказаць, што ўражанні дзяцінства глыбока ўплываюць на ўсё далейшае фармаванне чалавека, на арганізацыю яго паводзін.

Было-б вялікай памылкай думаць, што інтэрнацыянальнае выхаванне можа заключацца толькі ў засваенні дзецьмі агульных лозунгаў і палажэнняў.

Уся палітыка совецкай улады ў адносінах да нацыянальнасцей, якія насяляюць СССР, выхоўвае пачуццё інтэрнацыяналізма, наша краіна прадстаўляе сабой асяроддзе, найбольш спрыяючае развіццю інтэрнацыяналізма. Аднак мы ні на мінуту не можам забывацца аб мінулым нашай краіны. „Справу вякоў папраўляць нялёгка". Уся палітыка царскага ўрада выхоўвала самы нястрымны вялікадзяржаўны шавінізм сярод рускіх з аднаго боку, з другога озлоблены нацыяналізм, нацыянальную замкнутасць сярод прыгнятаемых нацыянальнасцей, якіх згуртоўваў уціск пануючай нацыі. І было-б наіўна думаць, што ў быце, у поглядах шырокіх мас няма перажыткаў вялікадзяржаўнага шавінізма, што зжыта да канца недавер'е да рускіх, няма нацыяналістычных настрояў, што класавы вораг не скарыстае гэтых настрояў, гэтай спадчыны мінулага.

На самацёк спадзявацца не прыходзіцца. Школа павінна не толькі абучаць, яна павінна быць цэнтрам комуністычнага выхавання. **Выхаванне інтэрнацыянальнае з'яўляецца адной з састаўных частак комуністычнага выхавання.**

Інтэрнацыянальнае выхаванне павінна быць **штодзённай справай,** а не зводзіцца толькі да інтэрнацыянальных мітынгаў і святкаванняў, або праводзіцца толькі на асобых уроках. Ім павінна быць прасякнута ўся выхаваўчая работа.

У пачатковай школе ў нас **выкладанне вядзецца на роднай мове** кожнай нацыянальнасці, прычым пад увагу бярэцца не паходжанне, а тая мова, на якой дзіця гаворыць. Гэта неабходна, інакш дзеці не разумелі-б нічога з таго, што выкладаецца, дзеці нацменшасцей адставалі-б у сваім развіцці ад дзяцей пануючай нацыянальнасці, на мове якой вялося-б выкладанне.

Аднак, на гэтай глебе можа стварацца часамі адчужанасць між дзецьмі розных нацыянальнасцей. Тут патрэбна пільнасць. Трэба, каб дзеці школы адной нацыянальнасці пабольш ведалі аб жыцці іншых

нацыянальнасцей. Трэба, каб настаўнік **расказваў дзецям не толькі аб тым, як прыгняталася даная нацыянальнасць пры царызме**—гэта само па сабе неабходна, **але трэба** гаварыць не толькі аб гэтым, а таксама **даказваць станоўчыя бакі ў рысах характару** гэтай нацыянальнасці, красачна расказваць аб такіх момантах у мінулым данай нацыянальнасці, якія пакажуць каштоўнасць данай нацыянальнасці. Мне неяк, пісалі рускія дзеці аднаго дзіцячага дома з Сярэдняй Азіі (на жаль я не памятаю рэспубліку, дзе гэта справа адбывалася), гэта было некалькі год таму назад, што настаўнік ім расказваў, якая адсталая нацыянальнасць мясцовыя жыхары, як іх прыгнятаў царызм, і яны, калі вырастуць, будуць дапамагаць гэтай нацыянальнасці стаць культурнай. На першы погляд як быццам-бы ўсё добра, але не гадзіцца, каб дзеці **звысака** глядзелі на адсталую ў культурных адносінах нацыянальнасць, і ў сваім пісьме дзецям у адказ я напісала аб тым, што некультурнасці ў нас яшчэ вельмі многа, стала ім прыводзіць прыклады некультурнасці сярод рускіх, а потым спытала, ці гуляюць яны з дзецьмі акружаючай нацыянальнасці, ці ведаюць яны, якія гэта смелыя, спрытныя дзеці, расказала ім некалькі прыкладаў.

Трэба звярнуць увагу дзяцей на станоўчыя асаблівасці ў характары тых ці іншых нацыянальнасцей, паказваць іх гераізм у рэволюцыйнай барацьбе, уменне напружана, арганізавана працаваць, дапамагаць адзін другому ў працы і ў барацьбе і т. д. і т. п. Многа-ж можна знайсці такіх момантаў. Возьмем, напрыклад, антысемітызм. З перажыткамі яго часта прыходзіцца сустракацца. Часамі дзеці могуць сказаць: „яўрэі—гэта буржуазія“, не падазраючы нават таго, які сэнс маюць іх словы. Тут патрэбна вялікая пільнасць. Каб зжыць дрэнныя адносіны да яўрэяў, трэба расказаць дзецям аб гераічнасці асобных барацьбітоў-яўрэяў за справу соцыялізма, аб вытрыманасці і ўпартасці ў працы ў яўрэяў-рабочых і т. п.

Вельмі важна скарыстаць у гэтых мэтах **мастацкую літаратуру** як рускую, так і нацыянальную. Пры выбары мастацкай літаратуры патрэбна, аднак, вялікая асцярожнасць. Мы часамі вельмі лёгка падыходзім да гэтай справы. Вазьму, такі прыклад. Ёсць апавяданне Л. Талстога „Кавказский пленник“—яго звычайна даюць чытаць дзецям. Твор надзвычайна мастацкі. Але, калі даваць яго без усякіх тлумачэнняў, то ён можа парадзіць ненавісць да татар, якія робяць з палоннікаў прадмет гандлю. Тое-ж самае апавяданне можна забяспечыць прадмовай, у якой параўнаць адносіны багатых татар да рускага палонніка і проціпаставіць адносіны дзяўчынкі-татаркі. Тут-жа трэба даць другое якое-небудзь апавяданне, дзе паказаць, як рускі прадпрымальнік або кулак эксплатаваў нацменшасці.

**Вельмі важна скарыстаць нацыянальную мастацкую літаратуру**, знаёміць з ёй дзяцей усіх нацыянальнасцей.

Але трэба не толькі знаёміць дзяцей тэарэтычна з жыццём іншых суседніх нацыянальнасцей, важна клапаціцца аб **фактычным збліжэнні дзяцей розных школ, дзе вучацца дзеці розных нацыянальнасцей. Тут трэба, каб на дапамогу педагогам, на дапамогу школе прышла піонерская арганізацыя і советская грамадскасць.**

Трэба арганізаваць пастаянныя сустрэчы рэбят **школ для дзяцей розных нацыянальнасцей**. Тут мастацтва можа адыграць асобую ролю. **Сумеснае наведванне кіно, сумесны ўдзел у советскіх святкаваннях, у прагулках, у экскурсіях.** Вельмі важна адабраць лепшыя песні розных народнасцей, блізкія па зместу дзецям, перакласці іх, асвятліць іх змест, арганізаваць сумеснае харавое спяванне гэтых песень. Гэта вельмі збліжае.

У жыцці дзяцей асаблівае значэнне мае **гульня.**

**Вельмі важна вывучыць гульні дзяцей розных нацыянальнасцей,** аналізаваць іх, узяць з іх найбольш цікавыя формы і ўліць у іх сучасны змест, у некаторых змяніць мэтавыя ўстаноўкі. Тут можна знайсці вельмі цікавы матэрыял. Гульні ў пачатковай школе трэба наогул удзяляць больш увагі, чым гэта часта робіцца. Не трэба забывацца, што гульня для дзяцей гэта часта самая сапраўдная вучоба.

Збліжае таксама сумесная праца. Дзіцячыя тэхнічныя станцыі, дзе сумесна будуць працаваць дзеці розных нацыянальнасцей, маюць вельмі вялікае выхаваўчае значэнне. Калі дзеці разам працуюць над пабудовай якой-небудзь мадэлі або над вырабам якіх-небудзь патрэбных рэчаў— гэта збліжае.

У старэйшых класах трэба ўжо арганізаваць некаторыя формы грамадскай работы, арганізаваць, напрыклад, сумесныя дзіцячыя суботнікі па дапамозе яслям, дзіцячай пляцоўцы, па ўпрыгожванню клуба, па дапамозе бібліятэцы і т. д. Па асабліваму павінны быць арганізаваны гэтыя дзіцячыя суботнікі. Яны павінны быць арганізаваны так, каб дзеці не стамляліся, каб работа была цікавая, не стамляючая. Важна пастаноўка мэты. Можна практыкаваць суботнікі ўзаемаабслугоўвання школ. Напрыклад, школа, дзе вучацца рускія дзеці, майструе што-небудзь для школы, дзе вучацца дзеці-татары і наадварот.

Сумесныя гульні, прагулкі, сумесная работа абуджаюць і імкненне вывучаць мову той нацыянальнасці, з якой маеш справу. Адна з форм вялікадзяржаўнага шавінізма выяўлялася ў тым, што рускія не хацелі, лічылі ніжэй свайго гонару вывучаць мову прыгнечанай нацыянальнасці. Прыгнечання ўжо няма, а веданню мовы вызваліўшайся нацыянальнасці яшчэ часта не прыдаецца належнага значэння.

У 3-х, 4-х класах пачатковай школы трэба ўводзіць **гурткі па вывучэнню мовы той нацыянальнасці, з якой прыходзіцца пастаянна мець справу.** Гэтыя гурткі могуць атрымаць шырокае развіццё і адыграць вялікую ролю ў справе збліжэння нацыянальнасцей. Заняткі ў іх трэба ставіць па так званаму **фанетычнаму** метаду, паклаўшы ў аснову **асаблівасці вымаўлення кожнай мовы.** Гэта наогул адзін з самых мэтазгодных метадаў вывучэння замежнай мовы, а ў даным выпадку гэта мае яшчэ і тое значэнне, што мэтавая ўстаноўка гэтых гурткоў—**навучыцца гаварыць** на той мове, на якой гавораць таварышы, з якімі заўсёды маеш справу. Такія гурткі вельмі карыснымі будуць для абуджэння цікавасці да данай мовы, выкладанне якой глыбей трэба будзе ставіць у старэйшых класах.

Побач з гэтым важна на ўроках **геаграфіі** расказаць аб тым, дзе якая нацыянальнасць расселена, на ўроках **гісторыі** расказаць аб гістарычным развіцці гэтай нацыянальнасці. На ўроках **гісторыі і грамадазнаўства** трэба расказаць аб палітыцы царскага самадзяржаўя, аб палітыцы савецкай улады, аб ролі Леніна і Сталіна ў правядзенні палітыкі роўнапраўя асобных нацыянальнасцей. У нацыянальных абласцях і рэспубліках гэтаму пытанню павінна быць удзелена больш увагі, чым гэта ўказана ў агульнай праграме. Вядома, у гісторыі для дзяцей трэба ўнікаць розных складаных фармуліровак, лозунгаў і т. д. Апавяданні павінны быць канкрэтнымі, асабліва зразумелымі дзецям, асабліва красачнымі.

Трэба расказаць, як палітыка царскай улады стварала цяжкія ўмовы жыцця нацыянальнасцей, развівала фанатычную рэлігійнасць, трымала нацменшасці ў цемнаце, узмацняла класавае расслаенне і ўціск і ўнутры кожнай нацыянальнасці запрыгоньвала жанчыну.

**Пытанне інтэрнацыянальнага выхавання павінна пачынацца з пытанняў, якія датычаць розных нацыянальнасцей унутры СССР,** таму што тут усе пытанні для дзетвары можна зрабіць больш нагляднымі і блізкімі. Але, вядома, на гэтых пытаннях нельга спыняцца. **Ад іх трэба перакінуць мост да інтэрнацыянальнага выхавання ў сусветным маштабе.** Трэба расказаць, як больш моцныя імперыялістычныя дзяржавы грабяць больш слабых. Трэба расказаць, напрыклад, як грабяць яны Кітай. На падставе расказа аб каланіяльнай палітыцы, трэба расказаць аб імперыялістычнай вайне, аб тым, якіх афяр яна каштавала працоўным. Затым трэба расказаць, як упарта змагаюцца большэвікі за мір, супроць новай грабіцельскай вайны, якую хочуць завязаць імперыялісты. Трэба расказаць аб тым, што рабочыя ўсіх краін павінны аб'яднацца, каб даць адпор капіталістам, не дапусціць вайны. Расказаць аб дні 1 Мая. І не толькі расказаць, а арганізаваць у школах гэты дзень як належыць.

У школьных і дзіцячых бібліятэках можна і трэба падабраць адпаведную мастацкую літаратуру.

Трэба скарыстаць кожны выпадак прыезду ў СССР іншакраінцаў, каб запрашаць іншакраінцаў-рабочых у нашы школы, піонерскія клубы і інш. Трэба, каб у піонерскіх газетах больш пісалася аб загранізы, каб дзеці прывучаліся чытаць газеты з картай у руках, каб рабілі сабе выпіскі з газет, перарысоўвалі сабе карты, чыталі пабольш аб загранізы. Вядома, больш грунтоўныя звесткі аб загранізы дзеці атрымаюць у сярэдняй школе, але і ў пачатковай школе яны павінны ўжо атрымаць пэўную зарадку, ужо ў пачатковай школе павінна быць абуджана цікавасць да пытанняў міжнароднага руху.

Трэба ўжыць усе намаганні, каб лозунг „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся“ зрабіць ім родным і блізкім.

*Зайцаў, Яворскі, Раецкі*

# Плюсы і мінусы Урэцкай узорнай школы

У Слуцкім пагранічным раёне, у мястэчку Урэчча знаходзіцца адна з лепшых вясковых узорных школ Беларусі—Урэцкая беларуская поўная сярэдняя школа.

У недалёкім мінулым гэтая школа змяшчалася ў адным будынку былога 2-х класнага пачатковага вучылішча. За апошнія гады яна вырасла ў цэлы школьны гарадок, а к пачатку гэтага навучальнага года закончана пабудова трох новых будынкаў. У іх размешчаны 16 класаў і 5—6 кватэр педагагічнага персанала. Стары будынак зараз скарыстаны пад політэхнічныя майстэрні, у ім абсталяваны свой радыёвузел, які абслугоўвае ўвесь школьны гарадок. Калі падыходзіш к Урэцкай школе, то гэты стары будынак у параўнанні з новымі робіць уражанне нейкага ліліпута.

На пляцоўцы каля школы ёсць гімнастычны гарадок, нядрэнна абсталяваная метэаралагічная станцыя, стралковы цір і розныя гаспадарчыя будынкі.

У галоўным вучэбным будынку з прычыны адсутнасці дастатковай колькасці пакояў, у класах размешчаны фізічны і хімічны габінеты. Забяспечанасць габінетаў вучэбнымі дапаможнікамі для прапрацоўкі праграмнага матэрыялу параўнальна дастатковая. Слабым месцам з‘яўляецца амаль поўная адсутнасць гістарычных і геаграфічных карт і рысункаў. Калі тут віну можна аднесці на кошт „аб‘ектыўных“ умоў, то больш чым дзіўным з‘яўляецца той факт, што ўзорная школа не мае прыродазнаўчага габінета. Гэта тым больш недапушчальна, што ва ўмовах вясковай школы з мясцовых экспанатаў, калекцый і гербарый можна было-б стварыць нядрэнны прыродазнаўчы габінет. У гэтых адносінах некаторыя школы БССР маюць значнае дасягненне. Прыродазнаўчыя габінеты ў іх утвораны амаль без затраты якіх-бы там ні было сродкаў і як дыдактычны матэрыял аказваюць настаўніку вялікую дапамогу.

Няма ў школе і жывога кутка для работы з юнымі натуралістамі.

На працягу раду гадоў на чале школы стаіць малады, энергічны педагог, комуніст т. Каршук. Ён здолеў падабраць і згуртаваць вакол сябе таксама маладых энтузіястаў школьнай справы. У старэйшых класах амаль усе выкладчыкі скончылі савецкія педагагічныя ВНУ, а ў малодшых—педагагічныя тэхнікумы. Правай рукой т. Каршука з‘яўляецца загадчык навучальнай часткі т. Некрашэвіч.

Урэцкая школа з года ў год прэміруецца Наркомасветы за добрую падрыхтоўку да навучальнага года. Не адзін раз прэміравана яна і за

пастаноўку вучэбнай работы. Заслуга ў гэтым і т. Каршука, і т. Некрашэвіча і ўсяго педагагічнага калектыва школы.

Урэцкая школа мае нядрэнныя ўзоры ў цэлым радзе раздзелаў школьнай работы.

У школе так спланавана работа, што ўвесь калектыў у цэлым і кожны педагог паасобку добра ведае, што ён будзе рабіць сёння, заўтра і нават праз месяц. Кожны педагог мае не толькі схематычны гадавы вытворчы план, але і канкрэтны, добра прадуманы рабочы план на кожны ўрок. Гэтыя планы правяраюцца загадчыкам навучальнай часткі і абгаварваюцца на метадычных цыклавых аб'яднаннях школы. Лепшыя рабочыя планы вывешваюцца ў школьным педгабінеце з тым, каб вопыт лепшых стаў здабыткам усяго калектыва.

План работы Урэцкай школы пабудаваны так, каб вясковае настаўніцтва магло прысутнічаць на ўзорных уроках. У агульны выхадны дзень ва Урэччы для настаўнікаў навакольных школ праводзяцца ўзорныя ўрокі. На гэтых уроках, як правіла, заўсёды прысутнічае многа настаўнікаў, якія прама заяўляюць, што Урэцкая школа аказвае ім вялікую метадычную дапамогу. Аб гэтым гавораць таксама і запісы настаўнікаў у спецыяльнай кнізе наведвальнікаў.

Метадычная дапамога масаваму настаўніку не абмяжоўваецца толькі ўзорнымі ўрокамі. Ва Урэцкай школе сістэматычна, па строга распрацаванаму плану, працуюць унутрышкольныя цыклавыя метадычныя аб'яднанні. У рабоце аб'яднанняў прымае ўдзел і настаўніцтва суседніх школ. Пасля ўзорных урокаў метадычных нарад вясковы настаўнік ідзе ў педгабінет школы. Тут ён атрымлівае патрэбную яму літаратуру або метадычную кансультацыю па пэўнаму пытанню.

У кожным класе, у калідорах вам адразу кінецца ў вочы, што школа актыўна ўключылася ў вытворчы паход імя VII з'езда советаў. Ідзе барацьба за павышэнне граматнасці, за чысты граматны сшытак, за добраякаснае выкананне праграм, за высокія паказальнікі ведаў па ўсіх дысцыплінах. Аб гэтым вам, у першую чаргу, гавораць агульнашкольныя і класныя насценгазеты. Гэтыя газеты выдаюцца не ад выпадку да выпадку, а рэгулярна і штодзённа. Раніцою і настаўнік і вучань, прышоўшы ў школу, у першую чаргу спяшаюцца да насценгазеты, каб хутчэй увайсці ў курс падзей сёнешняга дня школы.

Шырокая крытыка і самакрытыка ў насценным друку дапамагае ўмацоўваць дысцыпліну, падцягваць адстаючых. Яна папулярызуе лепшых ударнікаў вучобы. Пільна сочыць за выкананнем соцабавязацельстваў. Вынік вытворчага паходу ўжо ў наяўнасці. Значна павышаецца граматнасць вучняў на роднай мове. Трэба толькі адзначыць той факт, што яшчэ не ўсе педагогі ўключыліся ў барацьбу за павышэнне граматнасці вучняў. Апрача выкладчыкаў роднай і рускай моў толькі на ўроках матэматыкі і фізікі выкладчыкі лічаць сваім абавязкам, сачыць за граматнасцю вучняў не толькі ў галіне свайго прадмета, але і ў галіне роднай мовы. Як правіла, ніводнай пісьмовай работы ў школе не астаецца нявыпраўленай. У гэтым заслуга выкладчыкаў моў.

Унутрышкольны конкурс на лепшы сшытак даў ужо свае вынікі. Пісьмовыя работы выконваюцца акуратна, сшыткі здзіўляюць сваёй чыстатой, значна палепшыўся подчарк дзяцей. У апошнім вялікую ролю адыгрываюць не толькі ўведзеныя ўрокі чыстапісання, але і каліграфічныя табліцы, якія вывешаны ў класах і калідорах.

Асабліва добра пастаўлена ва Урэцкай школе выкладанне матэматыкі і фізікі. Выкладчыкі гэтых прадметаў тт. Рудзін і Магілевец, не гледзячы на свой невялікі педагагічны стаж (2—3 гады) з'яўляюцца майстрамі сваёй справы. Шляхам сістэматычнай работы над сабой і сур'ёзнай,

прадуманай падрыхтоўкі да кожнага ўрока, гэтыя педагогі прыпадносяць вучням нават абстрактны матэрыял у жывой, цікавай форме, умела скарыстоўваючы пры гэтым наглядныя дапаможнікі. Урокі іх цікавыя для дзяцей і даюць вялікі педагагічны эфект у адносінах засваення імі праграмнага матэрыялу па матэматыцы і фізіцы. Дзякуючы добрай арганізацыі педпрацэса вучні растуць нядрэннымі матэматыкамі.

Аднак і тут не без недахопаў. Кіраўніцтва школы зрабіла вялікі промах, даручыўшы выкладанне фізікі ў 7-м класе тэхніку т. Ярошыну. Магчыма, што т. Ярошын і добры радыётэхнік, але на жаль ён вельмі дрэнны выкладчык фізікі. У яго часта бываюць такога роду кур'ёзы, калі матэрыял, разлічаны на некалькі акадэмічных гадзін прапрацоўваецца за адну гадзіну. Так, тэму „Цеплавыя дзеянні электрычнага току" ён здолеў улажыць у адзін урок, у той час як праграмай на яе адведзена 8 гадзін. Наогул трэба сказаць, што т. Ярошын сам слаба ведае фізіку.

Апрача гэтага ва Урэцкай школе ёсць і іншыя, не менш буйныя прарывы. Як гэта не здаецца дзіўным, але ва Урэцкай школе—адной з лепшых сельскіх узорных школ Беларусі—на працягу доўгага часу з прычыны адсутнасці выкладчыка геаграфія нават не ўнесена ў расклад урокаў старэйшых класаў. Дырэктар школы аб гэтым не раз пісаў у Наркомасветы, патрабуючы прысылкі выкладчыка, але ў Наркомасвеце лічылі за лепшае маўчаць. Таксама з прычыны адсутнасці выкладчыкаў у школе не выкладаліся і такія важныя прадметы, як маляванне і фізкультура.

Дрэнна абстаіць справа ва Урэцкай школе і з граматнасцю вучняў па рускай мове: яна яшчэ вельмі нізкая. Не рэдкія выпадкі, калі нават вучні старэйшых класаў на адной старонцы робяць у дыктоўках па 30—40 памылак.

У заключэнне неабходна яшчэ спыніцца на політэхнізацыі. Школьныя політэхнічныя майстэрні абсталяваны не дрэнна. Ёсць 25 вучэбных месц па металу і 10—па дрэву, ёсць 4 станкі. Недахопам тут трэба лічыць тое, што абсталяванне расстаўлена без усякага плана. Сталы і станкі стаяць без парадку, што робіць уражанне дрэннай саматужніцкай майстэрні. Політэхнічнае навучанне абмяжоўваецца работай дзяцей толькі ў школьных майстэрнях. Школа недастаткова вывучае вытворчасць шляхам экскурсіі, а калгас і завод у школы, што называецца пад бокам.

Урэцкая ўзорная школа мае ўсе магчымасці большасць сваіх прарываў і недахопаў ліквідаваць уласнымі сіламі. Павінен дапамагчы ёй у гэтым і Менскі навукова-даследчы інстытут школьнай педагогікі, да якога школа прымацавана Наркомасветы.

# Вопыт работы Віцебскай 4-й узорнай сярэдняй школы

## КОНКУРС „ЗА ЧЫСТЫ СШЫТАК І ГРАМАТНАСЦЬ“

*(З вопыту 4-й узорнай сярэдняй школы г. Віцебска)*

У барацьбе за выкананне пастаноў партыі аб школе совецкая школа дабілася значных поспехаў у адносінах засваення вучнямі ведаў, сістэматычнасці і паслядоўнасці выкладання і павышэння якасці вучобы.

Але барацьба за знішчэнне „карэннага недахопу“ яшчэ не скончана. Дамініруючае месца ў „карэнным недахопе“ займае няграматнасць вучня, якой у значнай ступені садзейнічае неахайнасць і бруднасць пісьма. Брудны, патрапаны сшытак з'яўляецца неадлучным спадарожнікам няграматнасці вучняў. Каб ліквідаваць адзін з карэнных недахопаў школы— няграматнасць вучняў, неабходна побач з іншымі мерапрыемствамі, накіраванымі на палепшанне граматнасці, прад'явіць дакладныя, канкрэтныя і цвёрдыя патрабаванні да вучнёўскага сшытка.

4-я ўзорная сярэдняя школа г. Віцебска хоць яшчэ і не можа пахваліцца пагалоўнай граматнасцю вучняў, але ў параўнанні з мінулымі гадамі мае значныя дасягненні ў гэтай справе.

Каб стымуляваць вучняў на чыстае граматнае пісьмо, школа абвясціла конкурс „За чысты сшытак і граматнасць“. Пры гэтым, каб конкурс меў належныя вынікі, былі выпрацаваны, па-першае, адзіныя запатрабаванні, абавязковыя для кожнага настаўніка, у барацьбе за чысты сшытак і граматнасць вучня і, па-другое, умовы конкурса, абавязковыя для вучняў. Гэтыя патрабаванні і ўмовы мы і прыводзім ніжэй.

### I. Адзіныя патрабаванні ў барацьбе за чысты сшытак і граматнасць вучня

Барацьба за павышэнне граматнасці не можа быць паспяховай без сістэматычнага падтрымання работы выкладчыка мовы з боку ўсіх работнікаў школы, і цвёрдыя навыкі ў пісьмовай і вуснай мове могуць быць забяспечаны толькі ў выніку захоўвання правільнасці мовы ва ўсіх выпадках моўнай практыкі вучняў.

Выкладчыкі ўсіх школьных дысцыплін абавязаны:

А. У адносінах вуснай мовы вучняў:

1. Патрабаваць поўных адказаў.
2. Фармуляваць пытанні так, каб вучні прывучаліся да поўных разьвітых адказаў.
3. Уважліва сачыць за правільнасцю мовы вучняў, выпраўляючы іх памылкі і ў прыватнасці адкідваючы такія словы, як: ну, вось, значыць, так сказаць і інш.
4. Пры праверцы хатняга задання па такіх дысцыплінах, як літаратура,

гісторыя, геаграфія і інш. прывучаць вучняў даваць адказы ў апавядальнай форме і пры гэтым сачыць за правільнасцю мовы вучняў.

Б. У адносінах пісьмовай мовы:

1. Сачыць за правільнай пасадкай вучня пры пісьме і правільным трыманнем ручкі; прапанаваць вучням карыстацца тонкай і лёгкай ручкай.
2. Сачыць за знадворным выглядам запісаў і вокладкай сшытка, патрабуючы разборчывага подчарка і абсалютнай чыстаты пісьма.
3. Пісаць у сшытку адразу начыста, забараніўшы карыстанне чарнавікамі.
4. Забараніць карыстацца пяром „рандо“ і не дапускаць пісання карандашом.
5. Увесці шырокае карыстанне арфаграфічным слоўнікам, выпісваць у слоўнік таксама цяжкія для напісання навуковыя і іншыя словы, затрудняючыя вучняў.
6. Пры самастойных работах вучняў выпісваць на дошцы цяжкія словы.
7. Выпраўляць усе арфаграфічныя памылкі і стылістычныя парушэнні ў адносінах дапасавання і кіравання.
8. Выпраўляць памылкі чырвоным чарнілам або каляровым карандашом.
9. Пры выдачы пісьмовых работ аналізаваць памылкі.
10. Словы з тыповымі для класа памылкамі надрукаваць выразна на паперы і прымацаваць на спецыяльны аркуш-плакат: „Пішы граматна“.
11. Запісваць у сшыткі толькі неабходнае.
12. Прапанаваць вучням для запісу тэкст такога аб'ёму, які выключаў-бы паспешнасць і нядбайнасць і забяспечваў-бы праверку запісаў настаўнікам.
13. Рэцэнзіі на вучнёўскіх работах павінны быць канкрэтнымі стымуліруючымі вучняў на ліквідацыю памылак. На пісьмовых работах не павінна быць шаблоннага подпісу „глядзеў“, а павінны быць даны ўказанні: „Паўтары правіла правапісу (такое-то)“. „Запомні правапіс слоў (такіх-то)“ і г. д.
14. Пры ацэнцы работ па ўсіх дысцыплінах даваць ацэнку таксама па мове, і даводзіць яе да ведама выкладчыка мовы.
15. Абавязкова правяраць усе хатнія і класныя работы вучняў.
16. Узмацніць работу па граматычнаму разбору.
17. Не браць для праверкі брудных сшыткаў.
18. Класным кіраўнікам правяраць вывешваемыя ў іх класах плакаты, аб'явы, класныя насценгазеты; выкладчыкам мовы правяраць агульнашкольную насценгазету, плакаты, лозунгі і аб'явы, вывешваемыя на калідорах.

## II. Умовы конкурса „За чысты сшытак і граматнасць вучня“

А. Арганізацыя сшытка

1. На вокладцы сшытка па сярэдзіне яго павінен быць надпіс наступнага ўзору:

| |
|---|
| СШЫТАК |
| ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ |
| вуч. 6-га кл., 4-й узор. сярэдняй школы |
| АСІНАВІКА |

2. Сшытак павінен быць абложан, на абложцы даецца надпіс на белай наклейцы таго-ж зместу.

3. Сшытак павінен мець роўныя палі размерам 3 *см*, адагнутыя ці адлінееныя на правай старонцы з правага боку, а на левай—з левага.

4. Кожная работа павінна мець пэўны загаловак, напісаны пасярэдзіне і буйнейшым шрыфтам.

5. Пасля кожнай работы прапускаць адзін-два радкі і пры пераходзе са старонкі на старонку не адрываць загалоўка ад самой работы.

6. Радкі павінны пачынацца і заканчвацца на роўнай вертыкальнай лініі на 1 *см* ад краю; першы радок работы і пачатак абзацаў, т. зв. чырвоных радкоў, павінны пачынацца з адступленнем на 1 *см* ад лініі пачатку звычайных радкоў.

7. Памылкова напісаныя словы закрэсліваць тонкай лініяй.

8. Сшыткі трымаць у цвёрдай вокладцы і абсалютнай акуратнасці і чыстаце.

9. У сшытку пісаць толькі чарнілам, прычым аднакаляровым, нельга пісаць чырвоным чарнілам.

10. Забараняецца пісаць у класным сшытку карандашом і пяром „рандо".

11. Пісаць адразу начыста, не карыстаючыся чарнавіком.

12. Пісьмо павінна быць зусім выразным, роўным, акуратным і прыгожым.

13. Заўсёды правяраць напісанае, уважліва яго прачытваючы.

14. Па кожнаму прадмету павінен быць асобны сшытак; запісваць толькі тыя работы, якія ўказаны настаўнікам.

15. Кожную работу заўсёды выконваць у тэрмін.

16. У час работы не спяшайся, спачатку падумай, а потым пішы.

### Б. Мерапрыемствы па правядзенню конкурса

1. Пачаткам конкурса лічыць 1 снежня 1934 г.

2. З 1 снежня прыняць меры для папулярызацыі конкурса сярод вучняў, для чаго:

а) на вялікім перапынку правесці агульны школьны мітынг аб конкурсе;

б) класным кіраўнікам правесці класныя сходы, на якіх давесці да вучняў умовы конкурса і завастрыць іх увагу на важнае значэнне конкурса ў справе знішчэння „карэннага недахопу", паставіць пытанне аб правядзенні конкурса на бацькоўскіх сходах, запрасіўшы бацькоў прыняць удзел у праводзімым школай мерапрыемстве па знішчэнню карэннага недахопу; вывесіць у кожным класе ўмовы конкурса; піонерарганізацыі папулярызаваць конкурс на піонератрадах і звеннях, заклікаючы піонераў быць перадавікамі ў выкананні ўмоў конкурса.

3. Піонерарганізацыі пры непасрэдным удзеле класных кіраўнікоў шырока разгарнуць соцспаборніцтва паміж піонерамі, вучнямі кожнага класа і паміж класамі на лепшае выкананне ўмоў конкурса.

4. Класным кіраўнікам прымацаваць адстаючых па пісьму вучняў да больш паспяваючых.

5. Праводзіць сходы бацькоў тых вучняў, якія адзначаюцца нядбайнасцю ў пісьме; на гэтых сходах завастрыць увагу бацькоў на неабходнасці сачыць за работай дзяцей пры выкананні імі хатніх пісьмовых работ, паказаўшы бацькам, чым і як яны могуць дапамагчы вучням.

6. Класным кіраўнікам завесці ў кожным класе дзённік уліку ходу конкурса, вядзенне дзённіка даручыць тром лепшым у адносінах чыстаты і правільнасці пісьма вучням, якія вядуць гэты дзённік пад кіраўніцтвам класнага кіраўніка.

7. Кожную шасцідзёнку класны кіраўнік, сумесна з выдзеленымі па вядзенню дзённіка вучнямі, падводзіць вынікі ходу конкурса па свайму

класу. Звесткі аб выніках ходу конкурса за кожную шасцідзёнку своечасова перадаюцца начальніку штаба конкурса.

8. У канцы месяца (25 числа) штаб конкурса падводзіць вынікі ходу конкурса за месяц з улікам лепшых і горшых вучняў, лепшых і горшых класаў па чыстаце сшытка і граматнасці па ўсёй школе.

9. Уся падрыхтоўчая работа (п. 2, 3, 4) праводзіцца ў перыяд з 1 да 10 снежня.

10. Падрыхтоўка, ход і вынікі конкурса асвятляюцца ў школьным друку—отрадных і агульнашкольных насценгазетах.

11. Класныя кіраўнікі два разы ў месяц (1 і 15) наладжваюць у сваіх класах выстаўкі лепшых і горшых сшыткаў, прыстасоўваючы іх да класных сходаў, на якіх прысутнічаюць бацькі.

12. Фінішам конкурса лічыць 1 красавіка 1935 г.

13. Устанавіць прэміі:

а) пяць класных прэмій: адну 1-га разрада—пераходны сцяг, дзве 2-га разрада—бюст Леніна або Сталіна, дзве 3-га разрада—ганаровая грамата.

б) 40 індывідуальных прэмій, з іх 5 прэмій 1-га разрада каштоўнасцю кожная па 20 руб., 10 прэмій 2-га разрада каштоўнасцю па 10 руб. кожная, 25 прэмій 3-га разрада каштоўнасцю па 3 руб. кожная.

Паказальнікамі, якія даюць права на атрыманне прэміі, лічыць наступныя:

а) Для класных прэмій.

На прэмію 1-га разрада:

1. Узорная пастаноўка конкурса, афармленне і паўната ўліку конкурса (павінны захавацца ўсе сшыткі і інш. матэрыялы).

2. Культура сшыткаў класа—на 100 проц. сшыткі абсалютнай чыстаты, правільны подчарк.

3. Граматнасць—у сярэднім на 100 слоў у старэйшых, і на 50 слоў у малодшых класах—адна памылка.

4. Паспяховасць класа не ніжэй 96 проц.; добрая дысцыпліна.

На прэмію 2-га разрада:

1. Добрая пастаноўка конкурса, афармленне і ўлік конкурса.

2. На 97 проц. сшыткі абсалютнай чыстаты.

3. На 100—50 слоў у сярэднім дзве памылкі.

4. Паспяховасць класа не ніжэй 95 проц.; добрая дысцыпліна.



На прэмію 3-га разрада:

1. Добрая пастаноўка конкурса, афармленне і ўлік конкурса.

2. На 95 проц. сшыткі абсалютнай чыстаты.

3. На 100—50 слоў у сярэднім тры памылкі.

4. Паспяховасць класа 95 проц., добрая дысцыпліна.

б) Для індывідуальных прэмій:

1. На прэмію 1-га разрада:

Абсалютная чыстата сшытка, прыгожы подчарк і ніводнай арфаграфічнай памылкі ў кантрольных работах.

2. На прэмію 2-га разрада:

Абсалютная чыстата сшытка, прыгожы подчарк і не больш двух памылак на 100 слоў у старэйшых класах і 50 слоў у малодшых у кантрольных работах.

3. На прэмію 3-га разрада:

Абсалютная чыстата, правільны подчарк і не больш трох памылак на 100 слоў у старэйшых класах і 50 слоў у малодшых класах у кантрольных работах.

*Загадчык навучальнай часткі Д. Канцелаў.*



# ВІДЫ РАБОТ ПА РАЗВІЦЦЮ ПІСЬМОВАЙ МОВЫ Ў МАЛОДШЫХ КЛАСАХ (1—4) СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ

## Метадычная распрацоўка Віцебскай 4-й узорнай сярэдняй школы

(*Абгаворана на метадычнай нарадзе настаўнікаў малодшых класаў*)

### I і II класы

Праграма па развіццю пісьмовай мовы мае некалькі раздзелаў, і работа па кожнаму раздзелу праходзіць на працягу ўсіх гадоў навучання, пры гэтым на кожным наступным годзе, яна з'яўляецца больш складанай, чым на папярэднім і разам з тым неразрыўна з ёю звязана.

Для развіцця пісьмовай мовы вучняў ужываюцца рознастайныя віды пісьмовых работ.

### 1. Подпісы пад рысункамі

Подпісы пад сваімі рысункамі—адзін з найбольш простых відаў самастойнай работы вучняў.

Вучні пасля экскурсіі зарысоўваюць асобныя моманты экскурсіі, а потым падпісваюць рысунак кароткімі сказамі, прычым цяжкія словы настаўнік выпісвае на дошцы.

Так, напрыклад, пасля экскурсіі ў парк можна запісаць такія сказы:

1. Мы былі на экскурсіі ў парку.
2. У парку мы бачылі дрэвы.
3. З экскурсіі мы ехалі на трамваі.

Такія работы праводзяцца з пачатку 2 года навучання.

У 1-м класе подпісы робяцца больш простыя, спачатку з аднаго слова а потым з двух-трох слоў.

### 2. Класіфікацыя прадметаў

(Хатнія і дзікія жывёлы; дрэвы і кусты; фруктовыя дрэвы і ягадныя кусты.)

Настаўнік у папярэдняй гутарцы з вучнямі выяўляе, якія жывёлы называюцца хатнімі і якія дзікімі і потым запісвае не па парадку іх на дошцы. Запісанае вучні зачытваюць, указваючы, якія з жывёл хатнія і якія дзікія і спісваюць па ўзору, дадзенаму настаўнікам на дошцы, спачатку хатніх, а потым дзікіх жывёл.

### 3. Дапісванне сказаў

Пасля распрацоўкі артыкула „Восень у калгасе" (чытанка Александровіча) або пасля гутаркі аб прыметах восені, настаўнік запісвае на дошцы сказы, не дапісваючы апошніх слоў. Пры гэтым вучням у якасці дапаможніка даецца справачнік. Вучні зачытваюць сказы і, карыстаючыся справачнікам, устаўляюць у іх адпаведныя словы і запісваюць сказы ў свае сшыткі.

У 2-м класе сказы бяруцца больш складаныя па зместу распрацаванага артыкула або па зместу гутаркі.

### 4. Спісванне сказаў з прапушчанымі словамі

Гэты від работы праводзіцца так, як і папярэдні, але словы прапускаюцца ў сярэдзіне сказу. Справачнік даецца абавязкова.

### 5. Устаўка ў словы прапушчаных літар

Прыклад: Выс-ка над зямл-й ляц-лі г-сі (1 кл.).

Настаўнік запісвае на дошцы сказы, прапускаючы націскныя галосныя літары. Вучні зачытваюць сказы, устаўляюць прапушчаныя літары і спісваюць сказы з дошкі.

### 6. Спісванне кароткіх вершаў

Пасля вывучэння напамяць верша можна даць вучням яго спісаць. Пры гэтым перш, чым пачаць спісванне, настаўнік тлумачыць, як спісваюцца вершы. Узор дае сам на дошцы, а вучні спісваюць з дошкі. У 2-м класе ў якасці задання на дом можна даць верш спісаць і самастойна.

### 7. Складанне сказаў з раскіданых слоў

Настаўнік піша на дошцы словы. Напрыклад: збіраюцца, дальнюю, у, птушкі, дарогу. Вучні зачытваюць словы, складаюць вусна звязны сказ. Настаўнік запісвае сказ на дошцы, і вучні яго спісваюць.

### 8. Складанне невялічкага артыкула з раскіданых сказаў (II кл.)

Настаўнік на дошцы запісвае сказы, прычым запісвае іх не па парадку. З гэтых сказаў трэба скласці звязнае апавяданне. Спачатку апавяданне прапрацоўваецца вусна, а потым вучні самастойна яго запісваюць у сшыткі. Напрыклад, настаўнік на дошцы запісвае сказы: „Прыляцелі птушкі. Вучні выратавалі птушак ад голаду. Настала халодная зіма. Кармушку паставілі на дрэва ў садзе. Вучні зрабілі для птушак кармушку. Птушкі пачалі кляваць зярняткі“.

Пасля калектыўнай вуснай прапрацоўкі апавядання, вучні самастойна запісваюць яго ў сшыткі.

„Настала халодная зіма. Вучні зрабілі для птушак кармушку. Кармушку паставілі на дрэва ў садзе. Прыляцелі птушкі. Птушкі пачалі кляваць зярняткі. Вучні выратавалі птушак ад голаду“.

Такую работу рэкамендуецца правесці на другім годзе навучання.

### 9. Калектыўнае складанне апавядання шляхам адказаў на пытанні (II кл.)

Тэмай апавядання лепш за ўсё ўзяць які-небудзь эпізод з жыцця дзіцячага калектыва: экскурсія, школьнае свята, работа на школьным гародзе. Напрыклад, пасля работы вучняў на школьным гародзе, спачатку абгаварваецца, што зроблена на школьным гародзе. Настаўнік дае асобныя пытанні. Вучні адказваюць на іх. Адказы настаўнікам запісваюцца на дошцы. Потым запісанае на дошцы па адказах вучняў апавяданне прачытваецца і спісваецца вучнямі ў сшыткі. Па гэтай тэме настаўнік ставіць пытанні: „Дзе мы былі? Якая работа там праводзілася? Якую дапамогу мы аказалі на гародзе? Куды мы пайшлі пасля работы?

У сшытках вучні запісваюць апавяданне: „Мы былі на школьным гародзе. Мы там бачылі ўборку капусты з град. Мы дапамагалі пераносіць качаны капусты ў склеп. Пасля работы мы пайшлі ў школу на ўрок.

Пасля гэтага можна даць вучням ужо самастойнае складанне адказаў на пытанні, прычым настаўнік тлумачыць, як выкарыстаць словы пытанняў для складання адказаў.

### 10. Калектыўнае складанне апавядання па карцінках шляхам адказаў на пытанні (I і II кл.)

Спачатку праводзіцца падрабязная гутарка па карцінцы. Затым з адказаў вучняў на пастаўленыя пытанні складаецца апавяданне і запісваецца настаўнікам на дошцы. Апавяданне прачытваецца ўголас вучнямі і спісваецца ў сшыткі.

Напрыклад, на карцінцы „Зіма“ мы бачым сад, дрэвы, дзяўчынку Насту, галодных птушак. Да гэтай карцінкі можна даць такія пытанні: Якая пара года настала пасля восені? Як жылося птушкам узімку? Што зрабіла Наста для птушак? Што пасыпала Наста на кармушку? Што рабілі птушкі?

На падставе калектыўнай гутаркі на гэту тэму і адказаў вучняў настаўнік запісвае на дошцы апавяданне.

### 11. Калектыўная работа па зместу прачытанага артыкула шляхам адказаў на пытанні (II кл.)

Вучні чытаюць невялічкае апавяданне. Пасля гэтага настаўнік па зместу апавядання піша на дошцы пытанні. Вучні адказваюць на пытанні спачатку вусна, а потым запісваюць адказы ў сваіх сшытках самастойна.

### 12. Калектыўнае ўкладанне па асобных словах

Настаўнік піша на дошцы некалькі слоў. З гэтых слоў вучні спачатку вусна складаюць апавяданне. Потым настаўнік запісвае яго на дошцы, а вучні спісваюць у сшыткі. Напрыклад, даюцца словы: сёмага лістапада, дэманстрацыя, сцягі, аўтамабілі, аэрапланы, горад.

З гэтых слоў дзеці складаюць такое кароткае апавяданне: „Сёння 7 лістапада. Сонца ззяе. Вось дэманстрацыя прыбліжаецца к Чырвонай плошчы. Нясуць чырвоныя сцягі. Вучні едуць на аўтамабілях, крычаць „ура“, махаюць флажкамі. Аэрапланы лётаюць над горадам“.

### 13. Самастойнае ўкладанне на даную настаўнікам тэму

Пасля таго, як вучні навучацца складаць невялічкія апавяданні вышэйуказанымі спосабамі, можна перайсці да самастойных невялічкіх работ. Тэмы для самастойных работ трэба браць з дзіцячага жыцця, з дзіцячых наглядванняў. Спачатку вучні вусна складаюць невялічкае апавяданне, настаўнік іх выслухоўвае, выпраўляе няправільнае вымаўленне слоў, робіць заўвагі і дае ўказанні як лепш скласці апавяданне; затым вучні самастойна пішуць у сваіх сшытках на гэту тэму апавяданне. Прыкладам такой работы можа быць такое кароценькае апавяданне:

„Ледаход. Па рацэ ідзе лёд. Крыгі трашчаць і ломяцца. Вось сабака плыве на крызе. Спусцілі лодку. Усе глядзяць на сабаку. Чалавек сеў у лодку і пад'ехаў да сабакі. Узяў яго ў лодку. Сабака выратаваны“.

### 14. Самастойныя работы, якія развіваюць дзіцячую фантазію (II кл.)

На дошцы пішацца загаловак з аднаго слова. Напрыклад: „Злавіла“, „Пажар“, „Выратавалі“ і т. п.

Спачатку вучні вусна складаюць на гэту тэму апавяданне, а затым

самастойна пішуць яго пад загалоўкам. Прыкладам такой работы можа служыць апавяданне:

ЗЛАВІЛА

Аднаго разу я была ў лесе. Доўга я хадзіла. Прайшла паляну. Сабрала крыху грыбоў. Вось пад кустом нешта запастала. Я зірнула туды і ўбачыла маленькае птушанятка. Злавіла я яго і панесла дадому. Дома я яго прыручыла.

### 15. Работа над слоўнікам ( I і II кл.)

Прыдумаць словы з процілеглым значэннем і практыкавацца ў падборы к дадзеным словам слоў з процілеглым значэннем.

Настаўнік спачатку запісвае на дошцы словы: шум, холад, белы, вялікі, цвёрды, цёплы, лёгкі, ціха, блізка і т. д. Вучні спісваюць гэтыя словы ў слупок і радам пішуць словы з процілеглым значэннем: цішыня, гарачыня і т. д.

Пасля гэтага з гэтых слоў можна скласці сказы і запісаць іх у сшыткі. „Я ціха (хутка) ішоў раніцай да цягніка. Дзьмуў цёплы (халодны) вецер. Ісці было лёгка (цяжка). Наша кватэра знаходзілася блізка (далёка) ад вакзала.

### 16. Запаўненне простай анкеты

Спачатку настаўнік складае анкету і зачытвае яе вучням. Пасля гэтага анкета запісваецца на дошцы настаўнікам. Вучні зачытваюць яе, прапрацоўваюць спачатку вусна і потым самастойна запісваюць у сшыткі. Работа па развіццю мовы ў 3 і 4 кл., апрача пералічаных вышэй, уключае наступныя віды:

1) Выпіска цытат з прачытанага твору.
2) Адказы на пытанні.
3) Пераказ невялікіх апавяданняў.
4) Творы апавядальнага і апісальнага характару.
5) Самастойныя творы па малюнку.
6) Творы дзелавога характару па плану, складзенаму вучнямі калектыўна.
7) Складанне пісем і дзелавых папер.
8) Работа над слоўнікам.

Прасцейшым відам работы над тэкстам з'яўляецца выпіска цытат з прачытанага твору. Настаўнік дае дзецям заданне выпісаць з твору апісанне прыроды, характарыстыку асобы і інш. На працягу года такіх работ даецца 10—12.

Адказы на пытанні прымяняюцца галоўным чынам у рабоце па літаратуры з мэтай лепшага засваення дзецьмі прачытанага. Спачатку апавяданне на ўроку літаратуры прачытваецца самім настаўнікам. Пасля гэтага дзеці голасна чытаюць тыя часткі апавядання, дзе яны могуць знайсці адказы на пытанні, якія былі намечаны настаўнікам і выпісаны на дошцы. Перш, чым запісаць у сшытках, вучні даюць вусныя адказы і толькі пасля гэтага прыступаюць да самастойнага пісьма.

На 3 годзе навучання ўводзяцца самастойныя работы. Прасцейшымі відамі такіх работ з'яўляюцца ўкладанні апавядальнага характару. Пішуцца апавяданні па раней складзенаму плану. Такі від работы праводзіцца 5—6 разоў у год.

**Прыкладны план укладання на тэму: „Як мы святкуем гадавіну Кастрычніка“**

1. Чаму мы святкуем гадавіну Кастрычніка.
2. Падрыхтоўка да свята ў нас.
3. Святкаванне гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі заграніцай.

У канцы 3 і пачатку 4-га года навучання ўводзяцца ўкладанні апісальнага характару. Такіх работ на 4-м годзе навучання даецца тры-чатыры.

**Прыкладны план апавядання на тэму: „Зіма“**

1. Прырода зімой.
2. Зімовы спорт:

а) розныя віды спорта,
б) якое значэнне мае ён для здароўя,
в) хто клапоціцца аб арганізацыі спорта.

3. Як я адношуся да зімы.

Самастойных укладанняў па рысунку даецца ў год тры-чатыры. Перад работай рэкамендуецца падрыхтаваць выразаныя з журналаў рысункі, адкрыткі, і па іх выпрацоўваць план апавядання.

Укладанняў дзелавога характару на працягу года даецца тры-чатыры. Яны служаць як-бы ўступам да заметак у насценгазету.

**Прыкладны план укладання на тэму: „Становішча жанчыны ў нас і заграніцай“**

1. Заграніцай.

а) рабочы дзень жанчыны,
б) заработак,
в) барацьба за свае правы.

2. У нас, у СССР.

а) зарплата,
б) роўнапраўнае становішча жанчыны,
в) удзел жаночы ў соцыялістычным будаўніцтве, клопаты совецкай улады аб жанчыне.

На 3 годзе навучання праводзіцца работа над словамі. Гэта работа павінна замацаваць назіранні і веды вучняў у галіне жыцця слова.

Вучні павінны ведаць, што ў нашай мове адны словы адміраюць, а другія ўзнікаюць, таксама павінны прадстаўляць змену значэння слова, ператварэнне совецкіх слоў у інтэрнацыянальныя і т. д.

На канкрэтных прыкладах трэба паказаць змены, якія адбыліся ў слоўніку вёскі, паказаць, што ў сувязі са зменай грамадскага ладу аджылі або аджываюць свой век такія словы, як: мяжа, знахар,ураднік, саха, і інш. і што ўзніклі новыя словы: камбайн, калгаснік, соцспаборніцтва і што некаторыя старыя словы—ячэйка, злёт, брыгада набылі новае значэнне, а такія як, комуна, большэвік сталі інтэрнацыянальнымі.

Вучні павінны ўмець указаць і раскрыць структуру новых слоў, спосабы ўтварэння такіх новых слоў, як сельсовет, комсамол, КІМ і інш.

У рэбят павінны быць заведзены спецыяльныя слоўнічкі старых, новых і інтэрнацыянальных слоў.

*Танкевіч і Ефімава.*

# ВІДЫ ПІСЬМОВЫХ РАБОТ ПА АРФАГРАФІІ Ў МАЛОДШЫХ КЛАСАХ (1—4) СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ

## Метадычная распрацоўка Віцебскай 4-й узорнай сярэдняй школы

*(Абгаворана на метадычнай нарадзе настаўнікаў малодшых класаў 5/XII 1934 г.)*

Каб дабіцца высокай арфаграфічнай граматнасці вучняў, неабходна прымяняць рознастайныя віды пісьмовых работ.

Выбіраецца той ці іншы від пісьмовай работы не выпадкова, а ў залежнасці: 1) ад матэрыялу, 2) ад месца данага матэрыялу ў агульнай сістэме граматычных ведаў (г. зн. ад таго ці з'яўляецца ён новым для вучняў, ці работа даецца з мэтай трэніроўкі або ўліку ведаў) і 3) ад узросту вучняў.

У пачатку прапрацоўкі ўсякага новага раздзела заўсёды пажаданы зрокавыя ўспрыняцці, а ў канцы—правільная камбінацыя зрокавых, слухавых і маторных.

Кожны від пісьмовай работы базіруецца на рознага роду ўспрыняццях. Так, зрокавы дыктант, галоўным чынам, базіруецца на зрокавых успрыняццях, а ў папераджальным дыктанце галоўную ролю адыгрываюць слухавыя ўспрыняцці.

У сваёй рабоце мы прымяняем, галоўным чынам, 7 відаў пісьмовых работ:

1. Свядомае спісванне.
2. Зрокавы дыктант.
3. Адваротны дыктант.
4. Папераджальны дыктант.
5. Творчы дыктант.
6. Кантрольна слухавы дыктант.
7. Самастойны запіс вучняў.

Каб дабіцца лепшага ўспрыняцця матэрыялу вучнямі і большай зацікаўленасці ў рабоце, кожны від работы можа прымяняцца ў рознастайнай форме.

Віды пісьмовых работ па гадах навучання.

### I клас

Пераважным відам пісьмовых работ на першых гадах навучання з'яўляецца свядомае спісванне з папярэднім зрокава-слухавым аналізам. Спісванне—адна з важнейшых форм работы па арфаграфіі ў падрыхтоўчых, першых і другіх класах.

Для падрыхтоўчых і першых класаў, дзе вядзецца навучанне грамаце, для спісвання павінны выбірацца словы, якія не разыходзяцца на пісьме з вымаўленнем (мама, дома).

Віды спісвання бываюць розныя: а) спісванне тэкстуальнае, б) спісванне, ускладненае рознымі арфаграфічнымі заданнямі (падкрэсліванне, дапісванне, устаўка слоў, даных у справачніку, змены па ўзору, пісанне завучанага напямяць.

Блізка да спісвання стаіць зрокавы дыктант, які таксама паспяхова прымяняецца на гэтых гадах навучання.

Слухавы дыктант хоць і не выключаецца, але на гэтых гадах навучання, асабліва на першым, займае другое месца.

1. Свядомае спісванне пачынаецца са спісвання з дошкі правільна і прыгожа напісанага слова, правапіс якога не разыходзіцца з вымаўленнем. Перад спісваннем кожнае слова аналізуецца. Вучні ўважліва

глядзяць на словы, голасна па складах чытаюць напісаны настаўнікам на дошцы тэкст, замацоўваючы вымаўленне зрокавым успрыняццем.

У падрыхтоўчым класе кожны вучань набірае словы з разразной азбукі, правярае яго па тэксту на дошцы і затым спісвае.

Для таго, каб арфаграфія слова лепш звязвалася з яго значэннем у свядомасці вучня, пісьмовую работу можна ілюстраваць.

Напрыклад, прапрацоўваючы вялікую літару ў клічках жывёл, можна, спісаўшы з дошкі гэтыя клічкі (Дружок, Шарык), зарысаваць саміх жывёл.

Таксама, прапрацоўваючы падзел слоў на склады, пасля спісвання з дошкі верша „зіма“ (Граматыка і правапіс Бязносіка I г. нав.) і аналізу слоў, якія падзяляліся на склады, можна нарысаваць карцінку зімы.

Зарысоўку можна даваць і на дом, у якасці хатняга задання. Рысунак у сшытку павышае зацікаўленасць вучня ў рабоце.

Пасля спісвання з дошкі пазней ужо даецца спісванне і з кнігі. Прапрацаваўшы з вучнямі сказ, настаўнік прапануе вучням спісаць яго. Пры гэтым для спісвання даецца спачатку сказ з 2-х слоў, потым з 3-х—4-х слоў.

2. Зрокавы дыктант. Слова або некалькі слоў, напісаныя на дошцы настаўнікам, падвяргаюцца зрокава-слухавому аналізу, потым закрываюцца. Вучні па памяці пішуць словы ў сшыткі, пасля чаго адкрываецца напісаны на дошцы тэкст і робіцца праверка.

Словы для зрокавага дыктанта бяруцца лёгкія і кароткія (у 1 кл. у зрокавым дыктанце правапіс слоў ні ў якім выпадку не павінен разыходзіцца з вымаўленнем).

Матэрыялам для зрокавага дыктанта можа служыць вялікая літара ў іменах вучняў, бацькоў, „ь“ на канцы і ў сярэдзіне слова.

3. Адваротны дыктант. Вучні самі дыктуюць настаўніку сказ, настаўнік запісвае яго на дошцы. Вучні ўважліва сочаць за рухам рукі настаўніка. Напісанае на дошцы аналізуецца і спісваецца вучнямі ў сшыткі.

Матэрыялам для адваротнага дыктанта можа быць таксама прапрацоўка вялікай літары ў іменах, прозвішчах, назвах гарадоў, рэк, вёсак, прапрацоўка сказу. Вучні самі прыдумваюць сказы з двух-трох слоў, настаўнік запісвае іх на дошцы, а потым вучні спісваюць іх у сшыткі.

У канцы года, калі праходзіцца ўжыванне „й“ і „ь“ у канцы слова паступова ўводзіцца пісьмо слоў, правапіс якіх не разыходзіцца з вымаўленнем (грыб—грыбы, зуб—зубы і т. д.).

## II клас

У пачатку навучальнага года асноўным відам пісьмовай работы ў 2-м класе астаецца свядомае спісванне з дошкі або з кнігі. Але ў другім квартале гэты від работы ўступае месца адваротнаму дыктанту а ў трэцім квартале ўжо можна прымяняць папераджальны дыктант, паколькі ўвесь курс арфаграфіі другога года навучання аснован на розніцы між гукам і літарай і для замацавання навыку правільнага пісьма нельга ўжо абмежавацца выключна спісваннем.

Пісьмо па слуху, аналіз слоў, тлумачэнне іх правапісу—вось асноўныя формы пісьмовых работ, пачынаючы з другой паловы навучальнага года.

Шляхам адваротнага дыктанта ў 2-м класе запісваюцца не толькі асобныя прыдуманыя вучнямі па пэўнаму заданню сказы, але і калектыўна складзеныя артыкулы.

Матэрыялам для адваротнага дыктанта можа служыць прапрацоўка форм сказу, ужыванне знакаў прыпынку, а таксама элементарнае прадстаўленне аб словах, якія абазначаюць прадмет, дзеянне і якасць прадмета.

Спачатку настаўнік запісвае патрэбны сказ на дошцы, ён аналізуецца вучнямі, робіцца вывад, і разабраны сказ запісваецца вучнямі ў сшыткі. Потым вучні самі прапануюць рад сказаў на розныя формы, якія, пасля запісу іх на дошцы, спісваюцца вучнямі ў сшыткі.

Зрокавы дыктант прымяняецца ў пачатку прапрацоўкі якога-небудзь раздзела, прычым тэкст даецца невялікі (ад 15 да 20 слоў), бо гэты дыктант патрабуе большай уважлівасці. Зрокавы дыктант праводзіцца таксама, як і ў 1-м класе. Матэрыялам для зрокавага дыктанта можа быць: напісанне прыназоўнікаў з іншымі словамі, звонкія і глухія зычныя і т. д.

Пісьмо па слуху ў гэтым класе значна ўскладняецца, паколькі даюцца такія словы, правапіс якіх разыходзіцца з вымаўленнем. Таму з другой паловы навучальнага года неабходна пачаць прымяняць і папераджальны дыктант, а к канцу года зрабіць яго дамініруючым відам пісьмовых работ. Праводзіцца гэты дыктант наступным чынам: спачатку чытаецца настаўнікам увесь тэкст у цэлым, затым разбіваецца на асобныя сказы. Кожны сказ разбіраецца і цяжкія словы з тлумачэннем іх правапісу выпісваюцца на дошцы (мароз—маразы, стол—сталы). Пасля разбору вучні па слуху запісваюць сказ у сшыткі, адзін з вучняў прачытвае напісанае ім у сшытку і выпраўляе зробленыя памылкі. Пасля гэтага можна прапанаваць аднаму з лепшых вучняў запісаць сказ на дошцы, а астатнія вучні яшчэ раз правяраюць сваё пісьмо і аб'ясняюць правапіс тых слоў, у якіх была дапушчана памылка.

У 2-м класе прымяняецца творчы дыктант. Вучням даецца рад слоў, напрыклад, чырвоны абоз, мароз, снег, калгасны клуб, горад, воз, сцяг. На гэтыя словы вучні прыдумваюць сказы, з якіх складаецца невялічкі звязны артыкул. Лепшыя сказы настаўнік запісвае на дошцы, а вучні спісваюць яго шляхам адваротнага дыктанта, пасля чаго ўсе сказы перачытваюць уголас. Прыклады такіх сказаў: „На дварэ стаіць мароз. Калгасны клуб поўны калгаснікаў. Чырвоны абоз накіроўваецца ў горад. Стаяць вазы з чырвонымі сцягамі“.

Часта творчага дыктанта прымяняць не трэба. Звычайна ён даецца пасля прапрацоўкі пэўнага раздзела з мэтай лепшага замацавання прапрацаванага правіла.

Для праверкі засваення пройдзенага матэрыялу можна праводзіць слухавы праверачны дыктант.

Пры гэтым неабходна прытрымлівацца наступнага:

1. Пачынаць дыктант з кароткага тэксту (10—14 слоў), а к канцу года можна даводзіць яго да 30—35 слоў.
2. Складаць дыктанты ў парадку паступовага нарастання арфаграфічных цяжкасцей, г. зн. у парадку прапрацоўкі праграмы.
3. Праводзіць дыктант на базе пісьмовага акружэння ў класе (плакаты, табліцы слоў). Такім чынам у 2-м класе цэнтр цяжару паступова пераходзіць з свядомага спісвання на адваротны і папераджальны дыктанты, якія і з'яўляюцца асноўным відам пісьмовай работы.

### III і IV класы

Спісванне на 3 і 4 годзе навучання без пэўных заданняў становіцца механічным і можа павесці да пагаршэння пісьма. Такое спісванне часамі даваць можна, але пры гэтым неабходзен кантроль з боку настаўніка. Настаўнік павінен адразу-ж праверыць сшыткі, даць ацэнку выкананню работы і ў далейшым разабраць зробленыя памылкі.

Калі спісванне праводзіцца па падручніку, то матэрыял спачатку павінен быць прапрацаваны вусна, каб настаўнік быў упэўнен, што вучні зразумелі спосаб вырашэння данай задачы. Трэба прывучаць дзяцей

карыстацца каляровым алоўкам для падкрэслівання слоў, правапіс якіх мае тую ці іншую асаблівасць.

Важнейшымі формамі дыктанта з'яўляецца папераджальны і праверачны.

Папераджальны дыктант бывае трох відаў: зрокавы, слухавы творчы.

Зрокавы дыктант уключае ў сябе наступныя моманты:

1. Вучням прапануецца тэкст з выдзеленай асобым шрыфтам прызначанай да засваення арфаграмы.

2. Вучні чытаюць гэты тэкст, звяртаюць увагу на выдзеленыя словы, аб'ясняюць іх напісанне праверачнымі формамі або пры дапамозе граматычнага аналіза.

3. Затым выпісваюць гэтыя словы ў слупок (складанне табліц) выдзяляючы патрэбныя літары (пішуць іх вышэй, падкрэсліваюць, пішуць чырвоным алоўкам).

4. Прыдумваюць і пішуць новыя сказы на гэтыя словы, прычым настаўнік запісвае гэтыя словы на дошцы.

5. Спісваюць тэкст, у якім словы напісаны з пропускам літар.

Апошняе практыкаванне носіць ужо характар праверкі замацавання вучнямі новага навыку, а таму павінна давацца толькі ў тым выпадку, калі пры дапамозе ўсіх папярэдніх практыкаванняў новая арфаграма ўжо добра засвоена.

Калі ў сістэме прыёмаў, якія складаюць зрокавы дыктант, выпадае тое ці іншае звяно, то належнага засваення добрай якасці не атрымаецца. Так калі не будзе праведзен граматычны аналіз, дзеці не ўразумеюць правіла, калі будзе прапушчана работа з табліцай слоў на вывучаемае правіла, будзе аслаблен момант зрокавага ўспрыняцця.

## Другі варыянт зрокавага дыктанта

1. Вучні чытаюць тэкст, выбраны для замацавання пройдзеных правіл, і, гледзячы ў кнігу, адзначаюць усе асаблівасці правапіса, робячы пры гэтым граматычны аналіз.

2. Дзецям прапануецца яшчэ раз уважліва паглядзець на словы, папярэдзіўшы іх аб тым, што яны зараз будуць пісаць гэтыя словы. Такое папярэджанне завастрае ўвагу дзяцей.

3. Кнігі загортваюцца, настаўнік дыктуе сказ не больш 1—2 разоў.

4. У час дыктанта настаўнік ходзіць між партамі і сочыць за пісьмом, прычым указанняў ніякіх не дае.

5. Напісаўшы сказ, вучні адгортваюць кнігі, правяраюць напісанае, выпраўляючы памылкі і падкрэсліваючы іх.

6. Настаўнік выклікае тых вучняў, у якіх заўважыў памылкі, і прапануе ім параўнаць напісанае з кніжным напісаннем і растлумачыць, чаму трэба пісаць так іменна, як напісана ў кнізе.

Пасля гэтага трэба прыступіць да прапрацоўкі наступнага сказу.

## Папераджальна-слухавы дыктант

Пры гэтым дыктанце раней, чым пісаць дыктуемы сказ, праводзіцца аналіз тых цяжкасцей, якія могуць сустрэцца ў час пісання. Пры гэтым засвайваемая арфаграма выпісваецца на дошцы, і пасля гэтага дзеці прыступаюць да пісання.

Могуць быць выпадкі, што граматычны аналіз праводзіцца не да, а пасля напісання сказаў, г. зн. калі памылкі ўжо зроблены.

Яшчэ часцей бывае, што настаўнік, выклікаўшы да дошкі вучня, дыктуе яму сказ і пасля таго, як гэты сказ напісан на дошцы і запісан

усімі вучнямі ў сшыткі, пытае: „Хто бачыць памылкі?“ Пасля гэтага памылкі тлумачацца і выпраўляюцца.

Такі від пісьма будзе з'яўляцца слухавым дыктантам толькі для таго вучня, які піша на дошцы, для астатніх-жа вучняў—гэта дрэнны від спісвання, паколькі яны ў час спісвання з дошкі паўтараюць усе памылкі, зробленыя выкліканым вучнем. Такі від зразумела не паляпшае пісьма, а наадварот—пагаршае яго. Лепш, калі ў час запісвання сказу на дошцы вучні будуць сачыць за пісаннем і толькі пасля выпраўлення памылак запішуць сказ сабе ў сшыткі. У даным выпадку работа ўсіх вучняў таксама будзе мець характар толькі спісвання. Ды калі ўжо справа ідзе аб прымяненні спісвання, то ці не лепш каб на дошцы пісаў сам настаўнік: ён і памылак не зробіць і каліграфічны ўзор будзе лепшы.

Слухавы папераджальны дыктант павінен аставацца выключна слухавым з папярэджаннем памылак спосабам граматычнага аналіза.

Слухавы дыктант правяраецца прыблізна такім спосабам:

1. Настаўнік ходзіць між партамі і глядзіць як хто піша, потым выклікае вучняў, якія зрабілі памылкі, і пытае, як яны напісалі тое ці іншае слова, як трэба яго напісаць і чаму імення так трэба пісаць.

2. Настаўнік піша да лекцыі ўвесь тэкст на дошцы і закрывае яго; пасля-ж сканчэння дыктанта, тэкст адкрываецца для праверкі.

3. Настаўнік забірае сшыткі, правярае іх і прапрацоўвае памылкі з вучнямі.

Для засваення новай арфаграмы трэба прытрымлівацца паслядоўнасці і прымяняць спачатку зрокавы дыктант, потым слухавы і ўрэшце праверачны.

### Схема ўрокаў па абучэнню арфаграфіі

Па абучэнню арфаграфіі можа быць тры віды ўрокаў:

1. Набыццё новых ведаў.
2. Замацаванне ведаў.
3. Праверка ведаў.

### Схема ўрокаў па прывіццю новых ведаў

1. Сувязь з папярэднім.
2. Пастаноўка перад вучнямі мэты.
3. Тлумачэнне новага правіла.
4. Вывад.
5. Фіксацыя вываду.
6. Замацаванне шляхам: а) прыдумвання прыкладаў, б) складання табліц на данае правіла, в) выканання невялікага задання па падручніку.
7. Праверка самастойнай работы.
8. Падагульненне.
9. Заданне на дом.

### Схема ўрокаў на замацаванне новага арфаграфічнага правіла

1 урок

1. Сувязь з папярэднім.
2. Пастаноўка мэты.
3. Зрокавы дыктант і назіранне за правільнымі формамі.
4. Складанне табліц.
5. Прыдумванне прыкладаў і запісванне іх.
6. Запіс у арфаграфічны слоўнік.

2 урок

1. і 2. Тое самае.
3. Спісванне, ускладненае заданнем.
4. Праверка выканання.
5. Заданне на дом.

3 урок

1. Паўтарэнне пройдзенага.
2. Пастаноўка мэты.
3. Слухавы дыктант.
4. Заданне на дом.

4 урок

1. Пісьмо з устаўкай прапушчаных літар з папярэдняй вуснай прапрацоўкай.
2. Праверка напісанага.

5 урок

Праверачная работа.

6 урок

Работа над памылкамі.

Вялікае значэнне ў справе замацавання арфаграфіі зрокавым шляхам мае складанне арфаграфічных слоўнічкаў. Аднак часта бываюць выпадкі, што работа вучняў над слоўнічкам абмяжоўваецца толькі запісам у яго тых ці іншых слоў. Што-ж датычыць карыстання гэтым слоўнічкам у якасці справачніка, то найчасцей гэтага не бывае. А між тым увесь сэнс работы над слоўнічкам і заключаецца ў тым, каб вучань у час пісання зварочваўся да слоўнічка як да справачніка. Настаўнік павінен заўсёды адсылаць вучня да слоўнічка, калі толькі ён ведае, што гэта слова там можна знайсці.

*Танкевіч і Ефімава.*

---

## УРОК ПА РОДНАЙ МОВЕ Ў 3 КЛАСЕ 4-Й УЗОРНАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ г. ВІЦЕБСКА 13/XII—34 г.

Тэма: Работа з карцінкай.
Мэта: Развіццё мовы вучняў шляхам складання апавядання па паасобных карцінках, аб'яднаных адной тэмай.
Абсталяванне педпрацэса: Серыя карцінак на адной таблiцы.

**План урока:**

1. Пастаноўка мэты перад вучнямі.
2. Тэма для апавядання або азаглаўленне карціны.
3. Аналіз зместу карцінак.
4. Запіс плана на дошцы.
5. Расказванне па плану.
6. Заданне на дом.

**Ход урока**

Успомніце, дзеці, якія мы ўжывалі віды работ для таго, каб вы навучыліся правільна выкладаць свае думкі (дапісванне сказаў, адказы на пытанні, складанне пытанняў да паасобных сказаў, складанне плана, апісанне карцінкі і інш.).

Сёння-ж мы паспрабуем скласці апавяданне па паасобных карцінка, звязаных паміж сабой.

Скажыце, колькі паасобных карцінак вы бачыце на гэтай табліцы? (6 карцінак).

Што вы бачыце на 1 карцінцы? (клас).

Што робяць дзеці ў класе? (вучацца).

Вучоба—гэта праца дзяцей.

Што робяць дзеці на другой карцінцы? (працуюць у майстэрні).

На трэцяй (выпускаюць насценгазету).

Што робіць хлопчык на чацвертай карцінцы? (чытае, вучыцца).

Якім адным словам можна назваць гэтыя дзеянні вучняў—вучацца, працуюць у рабочым пакоі, выпускаюць насценгазету? (праца).

Значыць гэтыя чатыры карцінкі, якім мы аб'ядНаем словам? (праца).

Паглядзіце цяпер на гэту карцінку. Што тут робяць дзеці? (катаюцца на каньках).

А скажыце, што робяць дзеці на гэтай карцінцы? (катаюцца на лыжах).

У які час вучні могуць катацца на каньках і на лыжах? (у вольны ад працы час, у час адпачынку).

Значыць, якім словам мы можам аб'яднаць гэтыя дзве карцінкі? (словам адпачынак).

Хто-ж гэта тут і працуе і адпачывае? (вучні).

Якую адзнаку ў вопратцы маюць гэтыя вучні? (чырвоны гальштук).

Хто мае права насіць чырвоны гальштук? (піонер).

Значыць, пра каго мы будзем складаць апавяданне? (пра піонера).

У якую пару года паказана, як працуе і адпачывае піонер? (узімку).

Які-ж загаловак мы дадзім нашаму апавяданню?—Праца і адпачынак піонера ўзімку.

Пасля запісу тэмы апавядання на дошцы прыступаю да аналіза карцінак.

Хто займаецца ў гэтым класе? (вучні, піонеры).

Калі піонер ідзе ў школу? (раніцой).

Як ён падрыхтоўваецца да школы? (чыста мыецца, правярае вучэбныя прылады, падручнікі).

Як трымае сябе піонер на ўроку? (уважліва слухае настаўніка).

Дзе стаіць настаўнік? (ля дошкі).

Што ён аб'ясняе вучням? (што перад намі стаяць тры задачы—вучыцца, вучыцца і вучыцца).

Хто даў нам такі запавет? (В. І. Ленін).

З чым чаргуюцца класныя заняткі піонера? (з працай у майстэрні).

Што робіць піонер у рабочым пакоі? (пілуе дошкі, габлюе іх гэблікам).

Якія інструменты для апрацоўкі дрэва вы бачыце на гэтай карцінцы? піла, гэблік, долата).

Як называюцца сталы, за якімі працуюць вучні ў рабочым пакоі? (рабочы стол, вярстак).

Якую-ж работу выконваюць піонеры, паказаныя на трэцяй карцінцы? (выпускаюць насценгазету).

Як называецца гэта работа піонера? (грамадскай).

Калі піонер выконвае грамадскую работу? (пасля заняткаў).

Колькі-ж чалавек працуюць над выпускам насценгазеты? (пяць чалавек).

Як яны размеркавалі між сабой работу? (двое стаяць на скамейцы і прымацоўваюць да сцяны дошку для газеты, адзін на падлозе піша плакат, яшчэ двое сядзяць за сталом і афармляюць газету).

Куды ідзе піонер са школы? (дамоў).

Што ён робіць, прышоўшы са школы? (абедае, ідзе на каток).

Што дзеці робяць на катку? (коўзаюцца па гладкім лёдзе).

Як адчувае сябе піонер на катку? (яму весела).

Чым абсаджан каток? (ёлкамі).

Для чаго каток абсаджваюць ёлкамі? (каб яго не заносіла снегам).
Якая пара дня паказана на гэтай карцінцы? (вечар).
Адкуль вы ведаеце, што гэта вечар? (гараць фанары, на небе месяц).
Куды ўжо трэба ісці піонеру? (дамоў).
Што робіць піонер, прышоўшы дамоў? (рыхтуе ўрокі).
Што паказана на гэтай карцінцы? (пакой піонера).
Якая мэбля ў яго пакоі? (ложак, этажэрка з кнігамі, стол і інш.).
Чаму піонер не траціць многа часу на падрыхтоўку ўрокаў? (бо ён ўважліва слухаў тлумачэнні настаўніка).
На што яшчэ астаецца ў піонера час пасля выканання хатняга задання? (пачытаць газету, кнігу, пагуляць у шашкі, шахматы і інш.).
Што паказана на гэтай карцінцы? (катанне на лыжах).
Якія дні піонер можа скарыстаць для лыжнай прагулкі? (выхадныя дні).
Колькі дзяцей прымае ўдзел у катанні на лыжах? (чацвёра).
Якую карысць прыносіць катанне на каньках і на лыжах? (умацоўвае здароўе).
Якія вы яшчэ ведаеце забавы дзяцей узімку? (катанне з гары, снежкі, лепка).

Скончыўшы аналіз карцінак, напішу на дошцы план у выглядзе пытанняў, які прапаную вучням спісаць у сшыткі.

**План**

1. Як рыхтуецца піонер да школы?
2. Чым ён займаецца ў класе?
3. Як піонер трымае сябе ў школе?
4 Што ён робіць у рабочым пакоі?
5. Для чаго піонер астаецца ў школе пасля заняткаў?
6. Што ён робіць прышоўшы са школы?
7. Як адчувае сябе піонер на катку?
8. Як ён праводзіць вечар?
9. Як піонер скарыстоўвае выхадныя дні?

Калі пытанні запісаны вучнямі ў сшыткі, прапаную даць адказ на першае, другое і наступныя пытанні, пасля чаго вучням прапануецца даць па данаму плану ў выглядзе апавядання апісанне карцінкам.

Прыблізны змест такога апавядання:

> Раніцою піонер устае, чыста мыецца, бярэ сумку з кнігамі і ідзе ў школу. У класе ён чытае, піша, лічыць і ўважліва слухае тлумачэнні настаўніка. У рабочым пакоі піонер робіць розныя рэчы з дрэва. Пасля заняткаў піонер астаецца ў школе для выканання грамадскай работы. Прышоўшы са школы, піонер ідзе на каток. На катку весела. Але ўжо сцямнела. На катку запальваюцца фанары. Трэба ісці дадому і рыхтаваць урокі. У выхадныя дні піонер з групай таварышоў наладжвае прагулкі на лыжах.

Спытаўшы двух-трох вучняў аб прапрацаваным на ўроку матэрыяле, прапаную вучням па данаму плану дома скласці і запісаць у сшыткі апавяданне.

**Хранаметраж:**

1. Пастаноўка мэты—3 мін.
2. Азаглаўленне карціны—6 мін.
3. Аналіз зместа карцінак—18 мін.
4. Запіс плана—10 мін.
5. Расказванне па плану—10 мін.
6. Заданне на дом—3 мін.

*Групавод* **В. Танкевіч.**

# РАБОТА ПА КАРЦІНЕ

## Метадычная распрацоўка Віцебскай 4-й узорнай сярэдняй школы

*(Абгаворана на метадычнай нарадзе настаўнікаў малодшых класаў 27-X 1934 г.)*

Работу над карцінамі трэба праводзіць з самых першых дзён прабывання дзяцей у школе. Складанасць сюжэта карціны павінна нарастаць паступова, у залежнасці ад узросных асаблівасцей дзіцяці той ці іншай групы.

У рабоце з дзецьмі малодшага ўзросту карціна па свайму сюжэту павінна быць чоткай і простай.

У 1-м і 2-м класах трэба скарыстоўваць карціны вялікага фармату, каб можна было на іх сканцэнтраваць увагу ўсяго класа. Можна практыкаваць работу і на некалькіх карцінах, прычым лепш, калі на іх ідзе паступовае развіццё сюжэта. Гэта прывучае дзяцей звязна мысліць і перадаваць свае думкі.

У далейшым, у 3-м і 4-м класах можна ўводзіць у практыку карціны тыпу раздатачнага матэрыялу і арганізоўваць работу ў выглядзе самастойных укладанняў па карціне.

План работы з карцінай складаецца з наступных момантаў:

1. Падрыхтоўчая работа, якая мае мэтай падрыхтаваць дзяцей да разумення зместу карціны, або выклікаць у іх належны настрой. Віды падрыхтоўчай работы могуць быць розныя: гутарка з дзецьмі на пэўную тэму, расказ настаўніка, чытанне літаратурнага матэрыялу.
2. Маўклівы разгляд карціны.
3. Чытанне карціны, калі дзеці разглядаюць само дзеянне, устанаўліваюць час калі гэта дзеянне адбываецца, хто нарысаваны на карціне і па знадворнаму выгляду вызначаюць соцыяльнае становішча, настрой дзейнічаючых асоб і ўзаемаадносіны між імі.

Метады чытання карціны могуць быць розныя:

а) Гутарка ў форме адказаў на пытанні.
б) Самастойнае выказванне дзяцей.
в) Чытанне карціны па плану, прапанаванаму настаўнікам.

4. Творчае асэнсаванне карціны, калі дзеці разумеюць сутнасць сюжэта карціны і ўстанаўліваюць моманты, якія маглі быць перад здарэннем, адлюстраваным на карціне і пасля яго.
5. Прыдумванне загалоўка карціны, якое вучыць дзяцей лаканічна выражаць сэнс карціны.
6. Укладанне па карціне, якое можа весціся па пытаннях або па плану, данаму настаўнікам.

У рабоце з карцінай не заўсёды павінны ўжывацца ўсе вышэй пералічаныя моманты: выбар іх для прапрацоўкі залежыць ад характару карціны, мэты ўрока і ступені падрыхтаванасці дзяцей. Так, напрыклад, на першым годзе навучання, прапрацоўваючы „Працу піянераў на гародзе“, трэба скарыстоўваць прасцейшыя віды работ па карціне: а) разгляд карціны, б) гутарка па карціне ў форме адказаў на наступныя пытанні:

1. Хто нарысаваны на карціне?
2. Дзе працуюць піонеры?
3. Дзе знаходзіцца гарод?
4. Што робяць піонеры на бліжэйшых градках?
5. Што робяць піонеры на далейшых градках?
6. Што стаіць каля градак?
7. Што будуць рабіць піонеры гэтымі лейкамі?

8. Што вы бачыце на адной з засаджаных градак?
9. На што піонеры паставілі чучала?
10. Якая пара года адлюстравана на карціне?
11. Якія прызнакі вясны відаць на карціне?

Пасля гэтай гутаркі, пры дапамозе навадзячых пытанняў складаецца апавяданне, якое дзеці пераказваюць разы два-тры спачатку па пытаннях, а пасля і самастойна.

Атрымліваецца прыблізна такая рэдакцыя:

Настала вясна. Ярка свеціць сонейка. Зелянее травіца. Распускаюцца дрэвы. Пара брацца за веснавую работу. Піонеры вышлі на школьны гарод. Яны ўскапалі градкі, разраўнялі іх граблямі і пасадзілі насенне. Потым узялі лейкі і пачалі паліваць градкі. Каб птушкі не клявалі насенне, піонеры паставілі на градцы чучала. Дружна працавалі піонеры. Добры будзе ўраджай.

Да складзенага апавядання дзеці прыдумваюць загаловак—„Работа піонераў на гародзе“.

У 2-м класе такое апавяданне з мэтай арфаграфічнай можа быць пад дыктоўку вучняў запісана настаўнікам на дошцы, а вучні спішуць яго ў сшыткі.

У 3-х і 4-х класах можна браць карціны і з больш складаным зместам. Прычым на ўроках можна распрацаваць толькі план укладання па карціне, падрабязна распрацаваўшы яго, а самую рэдакцыю ўкладання вучні могуць выпрацаваць самі і запісаць у свае сшыткі.

*Сафонава і Ракоўская.*

*Вайнінская*

*Настаўніца 7-й Менскай школы.*

# Што я зрабіла ў барацьбе за граматны, чысты, прыгожы сшытак

У бягучым навучальным годзе наша школа ў цэлым і мой клас у прыватнасці паставілі перад сабой асноўнай задачай барацьбу за граматны, чысты і прыгожы сшытак.

Пачалі мы з паседжання метадычнага аб'яднання настаўнікаў усёй школы, на якім я і наш выкладчык мовы т. Барон прачыталі на гэту тэму даклад, далі практычныя ўказанні настаўнікам, прагледзелі ўзоры сшыткаў вучняў усіх класаў і тут-жа на прыкладзе гэтых сшыткаў паказалі настаўнікам на слабыя месцы ў гэтым пытанні. Тут-жа мы выбралі камісію, якая будзе займацца грамадскім перыядычным праглядам сшыткаў. У камісію ўвайшлі выкладчык мовы, я, прадстаўнік ад бацькоў, піонерважаты і вучань старэйшага класа. Ацэнка сшыткаў была звычайная: „вельмі добра“, „добра“ „здавальняюча“ і „нездавальняюча“. У рэзультаце прагляду была вывешана зводка з указаннем на якое месца вышлі класы па стану сваіх сшыткаў.

Такое мерапрыемства падцягнула дзяцей. У іх з'явілася жаданне выйсці на першае месца, а таксама папасці на выстаўку лепшых сшыткаў. Гэта ў адносінах усёй школы.

У гэтым артыкуле я хачу падзяліцца вопытам асабіста маёй работы ў гэтым напрамку, расказаць, як я дабіваюся граматнага, чыстага і прыгожага сшытка. Працую я ў другім класе і зразумела, што з першага-ж урока я сур'ёзна, настойліва без ніякіх адступленняў, сістэматычна звяртаю ўвагу на ўсе дробязі, якія датычаць пісьма і сшыткаў.

Першым маім клопатам з'яўляецца акружэнне дзіцяці, г. зн. граматнае асяроддзе.

У класе вісіць плакат правільнай пасадкі ў час пісьма. Лозунгі, якія вісяць у класе, напісаны прыгожа і правільна. Над дошкай вісіць каліграфічная табліца, каб дзеці заўсёды маглі бачыць перад сабой правільна і прыгожа напісаную азбуку і цыфры.

Важнейшым фактарам у барацьбе за граматны, чысты і прыгожы сшытак з'яўляецца таксама пісьмо самога настаўніка.

Для таго, каб паказаць прыклад прыгожага пісьма, я прайшла семінар па каліграфіі, дабілася таго, што класную дошку разлінавалі, што дае настаўніку магчымасць самому пісаць правільна, роўна, а таксама абгрунтавана патрабаваць ад вучня правільнага і прыгожага пісьма на дошцы.

Правільная пасадка вучня ў час пісьма, адгінанне пальцаў, трыманне ручкі, уменне набіраць акуратна чарніла, аглядаць пяро, выняўшы з чарніла,—усё гэта прышлося прывіць дзецям.

У маім класе было трое дзяцей, якія пісалі левай рукой і пераход на пісьмо правай рукой вельмі адбіўся на іх подчарку і чыстаце сшыткаў.

З маіх назіранняў я зрабіла вывад, што прыгожа і старанна пішуць дзеці, якія любяць свой сшытак, а дзеці любяць сшытак тады, калі ён жывы, красачны і прыгожа абкладзен.

Выходзячы з гэтага, мы закупілі ўсім дзецям істужкі трох колераў: чырвоную, карычневую і кафейнага колеру. Прыклеілі мы чырвоную істужку да сшыткаў па мове, кафейнага колеру да арыфметычных сшыткаў, а карычневую—да сшыткаў па прыродазнаўству. Прычым ленты прыклеены адным канцом да вокладкі, другім—да прамакальнай паперы. Гэтыя істужкі стымулююць дзяцей берагчы вокладку, каб не параклейваць істужкі, не пэцкаць на прамакальнай паперы, што назіралася раней. Але тут заўважаецца і мінус. Я рэкамендавала падкладаць прамакальную паперу пад руку пры пісьме, чаго нельга зрабіць з прымацаванай паперай; але па дагаворанасці са мной дзеці для гэтай мэты мелі запасны кавалак паперы.

Для таго, каб дзецям падабаліся іх сшыткі, я дазваляю ім зарысоўваць, г. зн. упрыгожваць загалоўкі, дату каляровымі алоўкамі, прычым не даю ім занадта захапляцца гэтым, каб зарысоўка не зацямняла асноўнай мэты ўрока. Пры гэтым раю прыглядацца да сшыткаў расфарбаваных не груба, дзе фарбы паложаны ў тон. Зарысоўваюць дзеці пасля выканання асноўнай работы, г. зн. у канцы ўрока або нават у вольны час, наогул. І практыка паказала, што ў большасці дзяцей прыгожыя сшыткі ва ўсіх адносінах. Разрысоўка-ж сшыткаў дае магчымасць развіваць у дзяцей эстэтычны густ, ды і самі сшыткі перастаюць быць аднатоннымі. Многа прышлося мне папрацаваць і над надпісамі на сшытку. У нас па ўсёй школе ўведзен аднастайны надпіс прыкладна велічынёй 7 *см* × 10 *см*.

| |
|---|
| ЯЎРЭЙСКАЯ МОВА |
| II „А" клас |
| *Мельцэр Лена* |

Надпіс гэты наклейваецца на пэўным баку вокладкі, чыста ў рамачцы. Здавалася-б, што гэта дробязь. Аднак пры аглядзе мы знайшлі вялікую колькасць сшыткаў, якія не мелі наогул надпісаў або мелі няправільныя надпісы. Сшыткі ва ўсіх дзяцей загорнуты ў паперу. Многа прыходзілася змагацца за чыстату рук, а таксама месцы, дзе ляжаць сшыткі. Нямала я мела тлустых плям як на вокладцы, так і на самым сшытку. Тут вядома дапамагла мне работа, праведзеная з бацькамі па гэтаму пытанню, аб якой я скажу крыху ніжэй.

Вялікую ролю ў барацьбе за прыгожы і граматны сшытак адыгрывае дазіроўка заданняў на дам.

Пасля некалькіх праверак сшыткаў я пераканалася ў тым, што класныя сшыткі ва ўсіх адносінах лепшыя за хатнія, і ўсё атрыманае ў класе ідзе на смарку ў вучня, паколькі пісьмо дома выконваецца як папала, адсутнічае вока настаўніка, менш цярплівасці, а найчасцей хатнія ўмовы перашкаджаюць добраму выкананню хатніх заданняў.

Як вывад з гэтага я перастала даваць дзецям, у якіх з подчаркам справа абстаіць горш, розныя спісванні з кнігі і т. п. Ім я пішу асобна ў сшытках прыгожа словы. Такіх слоў я пішу 5—6, кожнае слова—у асобны радок. Такую работу дзеці выконваюць з асаблівай стараннасцю.

Аднак кантроль тут, безумоўна, неабходзен. Наогул пры абучэнні пісьму індывідуальны падыход да дзяцей з'яўляецца галоўным патрабаваннем да настаўніка.

Каб стымуляваць дзяцей пісаць лепш, я ў сваім класе ўвяла ўлік якасці сшыткаў, у выніку чаго я вывесіла прыгожа абсталяваную дошку для ацэнкі сшыткаў як з боку граматнасці, так і з боку каліграфіі. На дошцы ёсць чатыры колеры—яркачырвоны, цёмначырвоны, зялёны і сіні. Кожны колер адпавядае ацэнцы „вельмі добра", „добра", „здавальняюча" і „нездавальняюча". Пад кожным колерам вісяць спісы дзяцей адпаведна чыстаце і граматнасці іх сшыткаў. Пры гэтым пераход з аднаго колеру на другі відаць для дзяцей. Пад сінім колерам вісеў спіс з васьмі чалавек, цяпер—толькі з 4 чалавек, дзеці стараюцца і імкнуцца да чырвонага колеру, што абазначае „вельмі добра" і „добра". У мяне ёсць таксама камплекты сшыткаў па нумарах некалькіх дзяцей: Брэйтмана, Баршча, Цэглава, па якіх добра відаць рост гэтых дзяцей у сэнсе граматнасці, почарку і чыстаты сшыткаў.

У адносінах граматнасці я таксама маю значныя дасягненні. У канцы 1-га паўгоддзя я правяла кантрольную работу. Для гэтай работы я дала звязны тэкст з 65 слоў, прычым рэзультат у мяне, улічваючы каліграфію і чыстату, наступны:

| | |
|---|---|
| Вельмі добра—без памылак | 7 работ |
| Добра—з адной памылкай | 12 работ |
| Здавальняюча—з 2—3 памылкамі | 7 работ |
| Нездавальняюча—больш 3-х памылак | 5 работ |
| Усяго | 31 работа |

Рэзультаты я зноў-такі вывесіла ў класе на прыгожа напісаных таблічках. Пры наступных работах дзеці пастараюцца напісаць чысцей і прыгажэй. Тыпы памылак мною ўлічваюцца, і я пасля такіх работ сістэматычна працую над тым, каб зжыць гэтыя памылкі.

І ўрэшце бацькі таксама з'яўляюцца вернымі памочнікамі настаўнікаў гэтай цяжкай, але важнейшай рабоце. Яшчэ ў пачатку года я на агульным сходзе бацькоў завастрыла іх увагу на тым, што дзеці павінны мець спецыяльнае месца для падрыхтоўкі ўрокаў, што сшыткі і кнігі павінны захоўвацца ў чыстаце, што ў час яды дзеці не павінны ні чытаць, ні пісаць, што для кніг павінны быць сумкі, дома павінна быць чарніла аднаго-ж колеру, што і ў школе і інш.

Нядаўна я правяла сход актыва бацькоў. Сход праводзіўся ў бацькоў за шклянкай чаю, дзе яны ўступілі ў конкурс на лепшую сям'ю. Адным з важнейшых пунктаў конкурса намецілі арганізацыю дзіцячага кутка; таксама было ўзята абавязацельства сачыць за выкананнем класных заданняў. Тут-жа ў інтымнай абстаноўцы мы наладзілі пераглядзіцячых сшыткаў, дзе я яшчэ раз падкрэсліла, чаго мы патрабуем ад дзяцей. Пры гэтым я ўступіла ў соцспаборніцтва з бацькамі тых дзяцей, у якіх з сшыткамі яшчэ не ўсё добра. Я ўзяла на сябе пункт падцягнуць іх дзяцей, што вядома мяне яшчэ больш абавязвае ўпарта працаваць у гэтым напрамку.

Рэзультаты ўжо ёсць.

К канцу першага паўгоддзя ў мяне ў класе паспяховасць была 97 процантаў, г. зн. з 37 дзяцей адзін не паспяваючы па мове, а к канцу навучальнага года я прыду з 100-процантнай паспяховасцю па ўсіх прадметах.

*Я. Шчэрбач*

# Першыя крокі барацьбы за культуру мовы ў школах Рэчыцкага раёна

Практыка работы школ за мінулы год паказала, што барацьба за культурную і граматную мову вучня нашай школы была недастатковай. Наглядалася **пагоня за звычайным уменнем вучня выказваць сваю думку** і мала звярталася ўвагі на перадачу яе прыгожай мовай. Мова вучня, а часамі і самога настаўніка—сухая, фармальная і мала адрозніваецца ад звычайнай газетнай мовы. Выказваемая на пісьме, або вусна думка часта будуецца доўгім, перыядычным сказам з лагічнымі памылкамі. Расказ настаўніка, які павінен быць прыгожым, эмацыянальна насычаным, ператвараецца ў нудны, сухі, нецікавы даклад. Вядома, што ад такога ўрока (а такія ўрокі ў многіх настаўнікаў пэваліруюць над жывой гутаркай) атрымліваюцца падчас далёка непажаданыя вынікі. Яны сведчаць аб тым, што барацьба за развіццё вуснай мовы вучня ператваралася часамі ў барацьбу за тое, каб навучыць яго доўга гаварыць, зусім не клапоцячыся аб лагічнасці выказваемых думак. Падобная практыка ў выкладанні літаратуры і гісторыі адчуваецца і ў гэтым навучальным годзе.

Аднак у цэлым работа па выпрацоўцы ў вучняў сапраўды культурнай, сапраўды граматнай мовы распачата ў гэтым годзе больш правільна і сур'ёзна. І ўжо першыя дні гэтай работы намецілі карэнны паварот.

Калі ў мінулым навучальным годзе масавай і амаль агульнапрынятай з'явай было фармальнае вывучэнне граматычных правіл, без увязкі іх з практыкай пісьма і калі ў выніку гэтага вучні на веснавыя праверачныя іспыты прыйшлі няграматнымі, то ў гэтым навучальным годзе ў барацьбе за культурны граматны сшытак, за граматную культурную мову вучня мы маем значныя зрухі.

Аднак распачатая работа патрабуе да сябе надзвычайна вялікай увагі з боку настаўніка, карэннай перабудовы яго работы ў адпаведнасці с апошнімі пастановамі СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб выкладанні гісторыі і геаграфіі ў школе.

Вялікае значэнне ў ажыццяўленні гэтых задач набывае правільная арганізацыя дапамогі школе з боку бацькоў вучняў, з якімі дзеці маюць сувязь дома.

Нельга адмаўляць і агульнага культурнага ўздыму нашага працоўнага насельніцтва. Кніга, газета, журнал сталі звычайным і неабходным у быту нашага калгасніка, а шырокая масавая работа хат-чытален, вечары, агульныя сходы дапамагаюць непамерна хуткаму культурнаму росту.

Нельга таксама забывацца і аб тым, што класавы вораг, яшчэ канчаткова не дабіты і імкнецца ўносіць свой шкодны ўплыў у жывы стру-

мень нашага жыцця і рознымі спосабамі стараецца затрымаць наш пераможны ход наперад, да бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Вось тут і трэба падумаць аб тым, як лепш арганізаваць бацькоў, і разам з імі павесці работу па барацьбе з такімі момантамі.

Гэта асабліва важна і неабходна цяпер, калі мы ўжо ажыццяўляем пастаўленую партыяй задачу перамагання перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей. Нельга разглядаць барацьбу за культуру мовы ізалявана ад класавай барацьбы; гэта не ёсць нешта абмежаванае рамкамі граматыкі. Гэта ёсць барацьба за агульныя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, за соцыялістычную культуру нашай мовы, за пралетарскі змест граматна пабудаванай і лагічна абгрунтаванай думкі.

Выкладчыку мовы і літаратуры трэба быць класава ўзброеным, умець паказаць класавую сутнасць вуснай народнай творчасці. Трэба пазнаёміць дзяцей са зместам і формай гэтай творчасці, узяць усё карыснае і неабходнае для абагачэння культуры мовы і агульнага развіцця дзіцяці.

На вялікі жаль, барацьба за культуру і граматнасць мовы не набыла яшчэ масавага характару ў школах Рэчыцкага раёна. Ёсць рад школ, дзе гэта барацьба яшчэ толькі пачынаецца. Калі Васілевіцкая ўзорная НСШ, дае ў гэтым напрамку добрыя ўзоры работы, то Рэчыцкая ўзорная сярэдняя школа яшчэ пакуль што адстае. Адным з асноўных патрабаванняў у справе барацьбы за культуру і граматнасць мовы Васільевіцкая НСШ лічыць добрую падрыхтоўку настаўніка да ўрока. У Рэчыцкай сярэдняй школе мы гэтага бадай не маем. Некаторыя маладыя настаўнікі, якія, будучы метадычна неакрэпшымі і прадастаўленымі самім сабе, пачынаюць, часамі, у выніку недастатковай падрыхтоўкі да ўрока даваць у сваіх класах прыклады некультурнага пісьма.

Памылкі вучняў звычайна не выпраўляюцца. І гэта было характэрна для большасці пісьмовых работ на працягу ўсяго верасня. Некаторыя пісьмовыя работы часамі выпраўляюцца і нават ставяцца адзнакі. Але гэтыя адзнакі сведчаць аб тым лібералізме да адзнак, якія наогул характэрны для гэтай школы. Атрымаўшы за работу „зд“, вучань не імкнецца палепшыць культуру пісьма, а разам з ім і культуру вуснай мовы. Гэта не стымулюе ўвагі вучняў на лепшае пісьмо, а культывуе неахайнасць, бескультур'е, няграматнасць вучня.

Вось узор настаўніка чацвертага класа гэтай школы, які паказвае, як не трэба даваць урокі, як не трэба змагацца за культуру, за лагічнае развіццё вуснай мовы.

Даецца задача, у якой трэба вылічыць плошчу.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 плашчадка | даўжынёю | 80 метраў | і шырынёю 65 метраў. |
| 2 „ | „ | 150 „ | „ 70 „ |
| 3 „ | „ | 30 „ | „ 20 „ |

Трэба даведацца чаму роўна плошча ўсіх плашчадак разам?

Пасля запісу ўмовы на дошцы, без папярэдняга азнаямлення вучняў настаўнік ставіць пытанне:

— „Ну што нада здзелаць?

Вучань: Нада скласці шырыню ўсіх плашчадак і памножыць на даўжыню.

Настаўнік: Не.

Нарэшце знайшоўся вучань, які адказаў правільна. Настаўнік, не робячы аналіза, не абдумаўшы, як лепш паставіць пытанне, запытваецца:

— Што для гэтага нада здзелаць,—замест, а як мы можам даведацца аб гэтым?

Вучань: Скласці.

Настаўнік: Дзелай.

І ў такім парадку голага вербалізму і схаластыкі прайшоў увесь урок. Што асталося ў дзяцей ад такога ўрока?

Уменне механічна вытвараць дзеянне над лікамі, але не ўменне разбірацца ў тым, чаму гэта робіцца так, а не інакш.

Зразумела, што такая работа не дасць пажаданых вынікаў. У старэйшых класах вучням будзе вельмі цяжка разбірацца ў больш складаных пытаннях, паколькі іх матэматычнаму развіццю не ўдзялялася ўвагі ў першыя гады.

Гэта бясспрэчна вялікая пагроза, таму, мы павінны зрабіць усё магчымае, каб знішчыць гэты недахоп.

У гэтай-жа школе на ўроку прыродазнаўства ў 8-класе настаўніца мабыць забыўшыся, што барацьба за культуру мовы павінна праводзіцца на кожным уроку, у школе і па-за школай, звярнулася да вучаніцы з такім вульгарызмам:

— Чаго ты ў „пальце“? Скінь гэтую хламідзіну.

Гэта не адзіночныя выпадкі. Многа чаго аджыўшага прыносяць у школу і самі настаўнікі. Адсюль паўстае задача барацьбы не толькі за культуру мовы вучня, але і самога настаўніка яго дома.

У рабоце школы Нахаўскага і Васілевіцкага сельсовета вялікім недахопам з'яўляецца неправільная пастаноўка друкавання слоў, абазначаючых назву і імёны людзей. Чамусьці агульнапрынятым правілам у настаўнікаў першых класаў усіх школ (апрача Васілевіцкай 4-гадовай) з'яўляецца друкаванне першага слова пасля кропкі і імён людзей з малой літары, што ўскладняе барацьбу за граматнае пісьмо пасля пераходу ад друкавання да рукапісу. Санітарна-гігіенічны стан сшытка таксама не высокі. Вельмі слаба разгорнута барацьба за культуру сшытка. Сустракаюцца выпадкі, калі сшытак зроблен неахайна, у запісу яго цяжка ўстанавіць паслядоўнасць ходу ўрока.

Вялікае значэнне ў паспяховай барацьбе за культурную, граматную і літаратурную мову мае правільная пастаноўка жывой мовы настаўніка. Жывая мова настаўніка, стройна пабудаваная і насычаная мастацкімі літаратурнымі вобразамі ў час расказа, гутаркі не толькі робіць урок цікавым, але і паднімае аўтарытэт настаўніка ў вачах вучняў, аб чым таксама не трэба забывацца, бо аўтарытэт, якім карыстаецца настаўнік сярод вучняў, вырашае поспех барацьбы за ажыццяўленне пастаўленых задач.

Адным з балючых месц у рабоце нашых школ з'яўляецца таксама дрэнная пастаноўка работы над вершам. Методыка гэтай работы вельмі кульгае. А між тым адной з асноўных задач у барацьбе за культуру і граматнасць вучняў з'яўляецца правільная пастаноўка работы па вывучэнню верша, яго дэкламацыі, унясенне момантаў драматызацыі.

Прыкладам дрэннай пастаноўкі работы над вершам можа служыць Васілевіцкая ўзорная НСШ.

У чацвертым класе гэтай школы разбіраецца верш Некрасава „Вясковы кулак“. Спачатку прыводзіцца біяграфія паэта:

Настаўнік: Некрасаў быў „расейскі“ паэт. Яго творы перакладзены на беларускую мову.

Пасля гэтага тлумачыцца слова кулак.

Кулак гэта чалавек, які жыве за чужы кошт і эксплаатуе другіх.

А аб тым, як праводзіцца зараз гэта эксплаатацыя, нічога не гаворыцца.

Пасля гэтых „тлумачэнняў“ настаўнік зачытвае ўвесь верш і, не зрабіўшы адпаведнай паўзы, для таго каб вучні змаглі засвоіць пэўны вобраз і замацавалі эмацыянальнае перажыванне, адразу-ж прыступае да разбору незразумелых слоў.

Не будзем гаварыць аб тым, як праходзіў разбор асобных слоў, адзначым толькі, што ўвесь палітычны змест верша выхалашчваецца. Вучням не даюцца асноўныя паняцці аб эксплаатацыі, а таксама нават не ўказваецца на тое, што так эмацыянальна, так насычана даецца самім паэтам Некрасавым.

Пры такой пастаноўцы работы, развіццё мовы, выпрацоўка культуры яе і марксісцка-ленінскага светапогляду тармозіцца няўменнем настаўніка правільна арганізаваць урок і як след разабраць твор.

Зусім іншае назіраецца ў настаўніцы 2-га класа на ўроку аб'яснальнага чытання.

Разбіраючы артыкул „Чужы парастак“, выкладчыца правільна пабудавала гутарку, проста і цікава расказала дзецям аб тым, як робіцца прывіўка культурных дрэў і якую гэта дае карысць.

Характэрна, што ў сваёй гутарцы яна трымалася прынцыпу: ніводнага лішняга слова, сказу. Усё строга абдумана спланавана і праверана. Такая работа, безумоўна, з'яўляецца поўнацэннай і заслугоўвае значнай увагі.

Ніякай барацьбы за культуру мовы не вядзецца ў Навінкаўскай школе. Там пануе поўны самацёк ва ўсёй рабоце школы. Аб гэтым, як не трэба лепш, можа сведчыць урок геаграфіі, праведзены ў трэцім класе гэтай школы.

Усё гэта разам узятае сведчыць, што барацьба за культуру мовы, за граматнасць у паасобных школах надзвычай нізкая і патрабуе большай увагі з боку дырэктароў і загадчыкаў школ.

Гэта не ў меншай меры залежыць і ад саміх настаўнікаў, ад іх жадання змагацца за карэнны пералом работы ў школе. Настаўнік у школе вырашае поспех яе работы. Ад таго, наколькі аддана, наколькі чэсна ён будзе працаваць у школе, залежыць выкананне апошніх пастаноў партыі аб школе. Толькі так мы можам канчаткова знішчыць „карэнны недахоп“ нашых школ.

*В. Мухін*

# Аб рабоце бібліятэк і пазашкольным чытанні ў НСШ

Адным з недахопаў нашай школы з'яўляецца недастатковая ўвага да літаратурнай асветы.

Пытанне мастацкага выхавання не займала і зараз яшчэ не займае адпаведнага месца ў рабоце некаторых нашых няпоўных сярэдніх школ. Выкладанне літаратуры, пазашкольнае чытанне не заваявалі яшчэ належнага месца ў рабоце нашых школ. Развіццё мовы стаіць на зусім нізкім узроўні. Паступаючыя ў 1934 г. у Менскі педтэхнікум у час іспытаў па літаратуры выявілі сваю няграматнасць. Яны не змаглі ахарактарызаваць творчасць паасобных пісьменнікаў, даць ацэнку іх мастацкіх сродкаў, вызначыць класавую пазіцыю пісьменніка і т. д.

Асабліва дрэнныя веды па літаратуры паказалі вучні Азярэцкай НСШ, Дзержынскага раёна (Махнач, Казакоўская). Яны давалі адказы такога зместу: Лынькоў напісаў твор „Дрыгва", Янка Купала—„Спалох на загонах". Падобныя-ж адказы давалі і вучні Ленінскай НСШ, Горацкага раёна (Аўдзеева), Новабыхаўскай (Уласава). Па іх выходзіць, што твор „над Бугам" напісан Александровічам, „Цені на сонцы"—Галавачом. Зместа твораў вучні пераказаць не змаглі.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што выкладанне літаратуры знаходзіцца ў дрэнным становішчы. Мала звяртаецца ўвагі на прапрацоўку твораў паасобных пісьменнікаў, адсутнічае ўвязка прапрацаванага твору з экономікай, гісторыяй і культурай эпохі.

Многія з выкладчыкаў літаратуры НСШ не маюць літаратурнай асветы і апрача вызначаных па праграме твораў яны і самі нічога не чыталі. Так дырэктар Бабруйскай НСШ т. Акуліч Максім (ён-жа і выкладчык літаратуры) адмовіўся трымаць іспыты для паступлення на завочнае літаратурнае аддзяленне ВПІ па той прычыне, што ўказаных у даведніку твораў ён не чытаў.

У Амельянаўскай НСШ (Смалявіцкі раён) літаратура на працягу 1933—34 навучальнага года зусім не выкладалася таму, што не было выкладчыка. Яе замянялі тут другімі дысцыплінамі.

Зразумела, што пры недастатковасці, а ў некаторых школах і адсутнасці падручнікаў па літаратуры, абмежаванай колькасці ўзораў мастацкіх твораў, якія трэба прапрацаваць, выкладчык літаратуры павінен мець літаратурную асвету, быць узброеным марксісцка-ленінскай метадалогіяй, добра разбірацца ў грамадскім жыцці, мець літаратурную начытанасць, умець перадаваць свае веды вучням, зацікавіць іх мастацкай літаратурай. Калі гэтага не будзе—выкладанне літаратуры не дасягне сваёй мэты.

Літаратура ў грамадскім жыцці адыгрывае надзвычайна вялікую і адказную ролю. У мастацкай творчасці адлюстроўваюцца ўсе бакі грамадскага жыцця, мастацкая творчасць дапамагае чалавеку разумець жыццё, навучае і выхоўвае яго. Літаратура ў мастацкіх вобразах адлюстроўвае класавую барацьбу. Нам трэба вывучаць літаратурны твор з пункту гледжання таго, чаму вучыць гэты твор, якое месца займаў ён у грамадскім развіцці ў час свайго з'яўлення, якія мэты ставіў пісьменнік, пішучы твор, якую вартасць мае гэты твор у сучасны момант і т. д.

Сучасная мастацкая літаратура, а таксама і спадчына класікаў ніколі не можа быць праправавана ў вызначаны навучальным планам час, і каб яе прачытаць, неабходна арганізаваць пазашкольнае чытанне. Тут на дапамогу выкладчыку і павінна прыйсці школьная бібліятэка.

На пазашкольнае чытанне неабходна звярнуць увагу яшчэ ў пачатковай школе. Тут і трэба прывучаць вучня да сістэматычнага чытання мастацкай літаратуры.

Звычайна вучань пачынае чытаць без усякага кіраўніцтва з боку выкладчыка і школьнай бібліятэкі. Кніжку ён дастае ў сваіх знаёмых або ў бібліятэцы. Вядома, што кніжка гэта не заўсёды адпавядае ўзросту вучня, а часамі і не падыходзіць па свайму зместу. Аддзелы народнай асветы і дырэктары школ мала звяртаюць увагі на арганізацыю пазашкольнага чытання. Яны клапоцяцца аб набыцці падручнікаў, сшыткаў, рамонце мэблі і школьных будынкаў, абсталяванні габінетаў і т. д., а аб тым, каб сістэматычна папаўняць бібліятэку свежай мастацкай літаратурай яны звычайна забываюцца. Бібліятэка вырастае самацёкам. Дырэктар школы час ад часу купляе кніжкі, колькасна бібліятэка расце, але рацыянальным выкарыстаннем яе, падпарадкаваннем педпрацэсу ў школе не заўсёды цікавяцца.

Характэрным прыкладам адмоўнай работы школьнай бібліятэкі з'яўляецца Марынагорская школа Пухавіцкага раёна. Школа гэта знаходзіцца ў самым раённым цэнтры, пры чыгунцы. Школа развіваецца ў поўную сярэднюю, вучняў налічвае даволі многа (619 чал.). Між тым бібліятэка абслугоўвае толькі вучняў старэйшых класаў, пачынаючы з пятага года навучання. Кіруе бібліятэкай не выкладчык літаратуры, якіх у Марынагорскай школе 2, а выкладчык фізікі і матэматыкі т. Рабцэвіч. Ён мае вышэйшую адукацыю, даволі вялікі педагагічны стаж, але-ж на вялікі жаль з сучаснай літаратурай знаёмы мала, чаго не адмаўляе і сам.

Кніжны фонд бібліятэкі вельмі абмежаваны і ў дадатак слаба папаўняецца, што не дае магчымасці разгарнуць у ёй як след работу.

Класікі рускай літаратуры ў бібліятэцы прадстаўлены такім чынам: Пушкін—„Сказки“—адзін экз., Глеб Успенскі—„Избранные рассказы“—1 экз., Некрасаў—„Стихи“—1 экз., Лермантаў—„Герой нашего времени“—3 экз., Салтыкоў-Шчэдрын—„Сказки“— 1 экз., Максім Горкі—„В людях“, „Городок Окуров“—па 1 экз. На гэтым і канчаецца спіс літаратуры рускіх класікаў.

Сучасная руская савецкая літаратура ў бібліятэцы зусім адсутнічае.

Значна багацей прадстаўлена беларуская савецкая літаратура.

Аднак і тут усіх кніжак, якія ёсць на кніжным рынку, мы не знойдзем.

Кнігамі бібліятэка папаўняецца праз мясцовую кнігарню БАКТ'а. Кніжкі звычайна купляюцца па аднаму экземпляру і, пападаючы ў бібліятэку, зараз-жа забіраюцца вучнямі, якія трымаюць іх па 2—3 тыдні. Загадчык бібліятэкі т. Рабцэвіч заяўляе, што нехапае сродкаў для набыцця літаратуры, што вызначаныя па каштарысу сродкі хутка будуць ска-

рыстаны. Праўда, школа змагла паспяхова мабілізаваць сродкі вучняў для набыцця падручнікаў, але аб набыцці мастацкай літаратуры для бібліятэкі чамусьці ніхто не падумаў. Чаму за гэтую справу не ўзяліся выкладчыкі літаратуры? Будзем спадзявацца, што на гэта адкажа дырэктар школы.

Абслугоўвае бібліятэка вучняў на працягу 30 мінут штодзённа, бо спецыяльнага памяшкання няма, і кнігі выдаюцца ў час перапынку між першай і другой зменамі. У выніку такіх адносін школьнай бібліятэкі да работы, чытаемасць кніжак вучнямі даволі нізкая. Ёсць выпадкі, калі вучні, узяўшы ў бібліятэцы кніжку, не зварочваюць яе 2—3 тыдні.

Зусім іншае назіраецца ў рабоце школьнай бібліятэкі Слабадской НСШ, Смалявіцкага раёна. Там зацікаўленасць да бібліятэкі праяўляецца з боку ўсяго школьнага калектыва. У бібліятэцы налічваецца каля 2000 паасобных кніжак. Літаратура самая рознастайная, пачынаючы ад мастацкіх твораў беларускіх і рускіх пісьменнікаў і канчаючы палітычнай літаратурай па розных пытаннях. Набываецца літаратура пад кіраўніцтвам выкладчыка мовы і літаратуры, а таксама пры актыўным удзеле вучняў. Бібліятэка пачала сваю работу з кастрычніка мінулага года; яна рэгулярна два разы ў тыдзень у вызначаныя дні на працягу двух гадзін выдае кнігі.

Відаць, што бібліятэкай кіруе кампетэнтны чалавек: складзен рэкамендацыйны спіс літаратуры. Біблятэка мае свае правілы, якія даведзены да кожнага вучня. У гэтых правілах прадугледжаны такія моманты, як беражныя адносіны да кнігі, своечасовы зварот кнігі ў бібліятэку, кансультацыя выкладчыкаў ці бібліятэкара і т. д. Адным словам бібліятэчная работа ў школе пастаўлена на належную вышыню, а адсюль і вынікі чытаемасці зусім іншыя. Бібліятэчныя правілы настолькі дысцыплінавалі кожнага вучня, што кніжкі зварочваюцца своечасова, з імі беражліва абыходзяцца.

Пазашкольнае чытанне поўнасцю падпарадкоўваецца педпрацэсу. Пры прапрацоўцы творчасці таго ці іншага пісьменніка даецца дадатковая літаратура, якая дапамагае вучням мець больш поўнае ўяўленне аб пісьменніку.

Паказ работы двух школьных бібліятэк даволі яскрава сведчыць аб тым, што работа гэта знаходзіцца не ў аднолькавым становішчы. Бібліятэка Слабадской НСШ змагла мабілізавацца, падпарадкаваць сваю работу педпрацэсу школы, у той час, як марынагорская школьная бібліятэка ў гэтым напрамку нічога не зрабіла.

Усім нашым школам трэба звярнуць максімальную ўвагу на работу школьных бібліятэк, на пазашкольнае чытанне вучняў, бо літаратурная асвета вучняў будзе зусім нізкай, калі выкладанне літаратуры абмяжуецца чытаннем толькі тых твораў, якія вызначаны па праграме. Бібліятэка павінна падвесці вучня да кніжкі, прымусіць любіць кнігу, каб чытанне для яго стала неабходнасцю. Вядома, што адзін бібліятэкар з гэтай задачай не справіцца. Тут вялікая работа ўскладаецца на кіраўніцтва школы і асабліва на выкладчыка мовы і літаратуры.

На падставе даследвання двух школьных бібліятэк мае меркаванні аб пазашкольным чытанні ў НСШ зводзяцца да наступнага:

Бібліятэкар у школе павінен быць з настаўнікаў, ведаючых добра мастацкую літаратуру. Пажадана каб гэта справа была даручана выкладчыку літаратуры.

Нельга пазашкольнае чытанне пускаць на самацёк. Трэба сістэматычна ім кіраваць, вывешваючы рэкамендацыйныя спісы літаратуры, якая ёсць у школьнай бібліятэцы. У гэты спіс павінны ўключацца тыя творы сучасных пісьменнікаў і класікаў, якія не ўвайшлі ў праграму.

Падбор літаратуры для пазашкольнага чытання—вельмі адказная справа. Чытаючы творы сучасных пісьменнікаў, вучні сустракаюцца з тыпізацыяй людзей-энтузіястаў, захопленых барацьбой за соцыялістычнае будаўніцтва, У гэтых творах адлюстраваны будаўнікі новага соцыялістычнага грамадства, якіх вучні могуць наглядаць штодзённа.

Значна цяжэй с прапрацоўкай класічнай літаратуры, адлюстроўваючай далёкае мінулае, аб якім вучань можа ведаць толькі з кніжкі. Самастойная работа над тым ці іншым класікам не заўсёды дасягае належных выхаваўчых мэт. Паасобныя творы Пушкіна, Лермантава Тургенева, Талстога, Купалы і Коласа патрабуюць сур'ёзнага крытычнага разбору. Бібліятэкар разам з выкладчыкам літаратуры павінны заўсёды даваць крытычны аналіз і ацэнку прачытанага твора, час ад часу наладжваць сходы чытачоў бібліятэкі і праводзіць гутаркі аб прачытаным. Апрача такіх гутарак вельмі пажаданымі з'яўляюцца пісьмовыя рэцэнзіі, якія вучні здаюць разам з прачытанымі кніжкамі. Такія рэцэнзіі дапамагаюць выкладчыку і бібліятэкару ў вывучэнні зацікаўленасці вучняў тым ці іншым пісьменнікам, даюць магчымасць выпраўляць тыя памылкі, якія могуць быць дапушчаны вучнем пры дачы рэцэнзіі, прывучаюць вучня коратка фармуляваць свае думкі аб пісьменніку і яго творах.

Вялікай перашкодай у наладжванні работы бібліятэкі і пазашкольнага чытання з'яўляецца адсутнасць на кніжным рынку належнай колькасці мастацкай літаратуры.

Выпускаемая школьная серыя ДВБ павінна набывацца бібліятэкамі не ў адным экземпляры, а не менш як у трох-пяці. Гэтым самым мы папоўнім нашы бібліятэкі літаратурай, адпавядаючай узросту вучняў і цікавай сваім зместам.

Некаторыя дырэктары школ скардзяцца, што ў раённых кнігарнях адсутнічае неабходная літаратура. Зразумела, што гэты недахоп трэба як найхутчэй ліквідаваць шляхам дасылкі ў раённыя кнігарні адпаведнай колькасці кніжак.

Значна цяжэй абстаіць справа з рускай мастацкай літаратурай, паколькі абмежаванасць яе на кніжным рынку не дае магчымасці ўсім НСШ набыць яе ў неабходнай колькасці. Наркомасветы трэба прыняць меры, каб бібліятэкі ў планавым парадку папаўняліся і рускай літаратурай.

Пры аглядзе школы інструктарам-метадыстам, загадчыкам Райана работа школьнай бібліятэкі і пазашкольнае чытанне не павінны выпадаць з іх планаў. У час падрыхтоўкі да новага навучальнага года папаўненне школьнай бібліятэкі, скарыстанне ўсіх бібліятэчных сродкаў і мабілізацыя вучнёўскіх,—усё гэта павінна з'явіцца планавай работай.

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя часопіса „Комуністычнае выхаванне" просіць загадчыка Пухавіцкага Райана неадкладна прыняць адпаведныя меры для палепшання справы Марынагорскай школьнай бібліятэкі. Разам з гэтым рэдакцыя звяртае ўвагу бібліятэчнага кіраўніцтва і пазашкольнай групы НКА на неабходнасць сістэматычнага і канкрэтнага кіраўніцтва школьнымі бібліятэкамі.

*М. Карпачоў*

# Аб відах пісьмовых работ у педтэхнікуме

Праграма па беларускай мове для педтэхнікумаў мае цэлы рад недахопаў, на якіх я не маю магчымасці спыніцца (ды гэта і не ўваходзіць у круг пытанняў майго артыкула). Але адным з галоўнейшых метадычных недахопаў праграмы з'яўляецца тое, што ёю не вызначаны тыя асноўныя віды пісьмовых работ, якія павінны ўжывацца на кожным курсе педтэхнікума, зыходзячы з асаблівасцей ведаў па мове студэнтаў кожнага паасобнага курса.

Таму перад выкладчыкам беларускай мовы педтэхнікума паўстае цэлы рад даволі складаных пытанняў, як у адносінах відаў пісьмовых работ, так і ў адносінах іх дазіроўкі. А калі прыняць пад увагу, што пытанні пісьмовых работ у педтэхнікумах распрацаваны недастаткова нават і ў навейшай метадычнай літаратуры, то зусім відавочна тая цяжкасць, з якой сустракаецца кожны выкладчык мовы ў сваёй практычнай рабоце.

Зыходзячы з гэтага, метадычны совет Рэчыцкага педтэхнікума ў пачатку другога паўгоддзя гэтага навучальнага года паставіў пытанне аб відах пісьмовых работ па мовах у тэхнікуме.

Дэтальна абгаварыўшы прапановы выкладчыкаў беларускай і рускай моў, метадычны совет прыняў такія віды пісьмовых работ:

1. Пісьмовыя работы па арфаграфіі і граматыцы.
2. Пісьмовыя работы па развіццю мовы.
3. Работы над кнігай і газетай.

Пісьмовыя работы па курсах тэхнікума па ступені нарастання іх складанасці ідуць у наступнай паслядоўнасці.

### I курс

#### 1. Работы па арфаграфіі і граматыцы

а) Праверачная гукавая дыктоўка (не больш аднаго разу у месяц), якая даецца пасля распрацоўкі таго ці іншага раздзелу граматыкі.

б) Практыкаванні-спісванні з падручніка па граматыцы або з хрэстаматыі па літаратуры з падкрэсліваннем вывучаемай катэгорыі, а таксама выкананне адпаведных практыкаванняў. Такая работа можа мець месца на ўроку, як замацаванне вывучаемага матэрыялу (8—10 радкоў), а таксама ў выглядзе хатняга задання (10—15 радкоў).

в) Самастойнае складанне сказаў, з уключэннем у іх слоў вывучаемай граматычнай катэгорыі.

г) Пісьмовы граматычны разбор (галоўным чынам хатняе заданне), які носіць графічна-схематычны характар.

### 2. Работы па развіццю мовы

а) Падрабязныя і развітыя пісьмовыя адказы на пастаўленыя выкладчыкам пытанні (пры вывучэнні літаратурных твораў).
б) Пісьмовы пераказ прачытанага ў класе або дома.
в) Укладанні на літаратурныя тэмы па данаму плану і без яго, калі студэнты самі складаюць план і арганізуюць матэрыял.
г) Апісанні (галоўным чынам прыроды).

### 3. Работа над кнігай і газетай

а) Складанне плана.
б) Заметка ў газету.

## II курс

### 1. Работы па граматыцы і арфаграфіі

а) Праверачная гукавая дыктоўка (адзін раз у квартал).
б) Практыкаванні-спісванні з падкрэсліваннем вывучаемай граматычнай катэгорыі (як класныя, так і хатнія).
в) Самастойныя складанні сказаў на вывучаемыя раздзелы сінтакса.
г) Граматычна стылістычныя работы: замена аднаго тыпу сказа другім, развіццё простага сказу ў складана-залежны, замена дзеепрыметных і дзеепрыслоўных словазлучэнняў дададзенымі сказамі і наадварот, замена простай мовы ўскоснай і наадварот і інш.
д) Сінтаксічны пісьмовы разбор (галоўным чынам графічны).

### 2. Работы па развіццю мовы

а) Укладанні на тэмы прапрацаваных твораў па літаратуры.
б) Рэцэнзіі на літаратурны твор.
в) Апісанні прыроды, бытавых сцэн з прывядзеннем дыялагаў, экскурсій, відаў работ у школе, на прадпрыемстве, у калгасе і інш.).
г) Характарыстыкі літаратурных вобразаў-персанажаў.

### 3. Работа над кнігай і газетай

а) Цытаванне.
б) Канспектаванне крытычных артыкулаў.
в) Складанне планаў і тэзісаў, крытычных артыкулаў, перадавіц і падвальных артыкулаў у газеце.

## III курс

### 1. Работы па развіццю мовы

а) Рэцэнзіі на літаратурныя творы.
б) Характарыстыкі літаратурных вобразаў-персанажаў.
в) Складаныя ўкладанні на літаратурныя тэмы як па аналізу паасобных літаратурных твораў, так і па аналізу творчасці пісьменніка.
г) Развагі на грамадска-палітычныя і філасофскія тэмы (прыкладам такіх тэм могуць быць: „Барацьба за хлеб—барацьба за соцыялізм“, „Матэрыя вечна“, „Зробім калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі“ і інш.).

### 2. Работа над кнігай і газетай

а) Падбор і арганізацыя матэрыялу для ўкладанняў.
б) Работа над некалькімі крыніцамі, цытаванне з іх і арганізацыя матэрыялу для разгорнутага ўкладання па аналізу творчасці пісьменніка.

в) Тэзаванне і канспектаванне гісторыка-літаратурных і грамадска-палітычных артыкулаў.

Гэтыя віды пісьмовых работ у педтэхнікуме могуць мець і свае адмоўныя бакі, а галоўным чынам значную недапрацаванасць гэтага пытання, бо паўтараю, пытанні методыкі правядзення пісьмовых работ па беларускай мове ў педтэхнікуме слаба распрацаваны. Нам здаецца, што гэтым пытаннем павінны зацікавіцца ў першую чаргу выкладчыкі белмовы ў педтэхнікумах і ў парадку абгаварэння методыкі правядзення пісьмовых работ у педтэхнікуме падзяліцца сваім вопытам на старонках часопіса.

*Машарава*

## Маленькі вопыт збору звяна на даму

У гэтым невялічкім артыкуле я хачу падзяліцца вопытам збору звяна на даму, праведзенага піонер-атрадам Віцебскай 22-й узорнай школы.

Збор звяна быў праведзен у доме лепшай вучаніцы-звеннявой—дачкі героя пяцігодкі. Збор быў прысвечан VII Усесаюзнаму з'езду советаў.

Да збору звяно пачало рыхтавацца яшчэ за два тыдні. Кожны піонер быў заняты падрыхтоўкай, але больш за ўсіх рыхтавалася важатая звяна—Сямёнава Валя. Трэба было падрыхтаваць абавязацельствы к VII з'езду советаў, мастацкія выступленні (танцы, спевы, шарады, рэбусы, загадкі), сабраць грошы.

Урэшце прышоў доўгачаканы выхадны дзень 30 лістапада. Кватэра Валі гатова прыняць шумлівых піонераў 2-га звяна, 11-га атрада. Рэбята прышлі ўсе разам. Спачатку было ціха. Паступова звыкліся з абстаноўкай, і вясёлы смех пачаў разлівацца па пакоі. Настрой быў добры.

— ... Збор звяна, прысвечаны падрыхтоўцы да VII з'езда советаў, лічу адкрытым. Слова аб сваіх успамінах дзяцінства мае мой бацька, лепшы ўдарнік-машыніст, герой пяцігодкі,—чуецца гучны, крыху ўсхваляваны голас Валі.

Уважліва слухаюць рэбята аб цяжкім невясёлым дзяцінстве т. Сямёнава.

— Раней,—гаворыць т. Сямёнаў,—бацька мой не меў магчымасці і сродкаў вучыць сваіх дзяцей, а я зараз маю шасцёра дзяцей, з якіх адзін ужо лётчыкам, другі канчае інстытут, а чацвёра вучацца ў вашай 22-й узорнай школе.

Старэйшы сын т. Сямёнава—Пётр, які прыехаў з Іркуцка дадому на адпачынак, расказвае піонерам аб тым, як з былога пастушка ён зараз стаў лётчыкам.

— ... Я таксама, рэбята, скончыў вашу школу,—гаворыць ён.—Тады яна называлася трэцяй апорнай і была яшчэ зусім дрэнна абсталявана. Зараз ваша школа мае добрае абсталяванне, вас вучаць добрыя настаўнікі, і вы маеце усе магчымасці да таго, каб добра вучыцца і расці дастойнай зменай, быць будаўнікамі будучага грамадства.

Старшая важатая Машарава спыняецца на задачах 2-га звяна, якое ўключылася ў паход VII з'езда советаў.

Гутарка праходзіць за шклянкай чаю. Піонеры выказваюцца аб недахопах работы звяна, аб незацікаўленасці асобных піонераў да работы, адзначаюць дрэнную паспяховасць піонеркі Марчанка, якае мае 8 „нзд", бяруць на сябе канкрэтныя абавязацельствы:

1. Дабіцца, каб к VII з'езду советаў звяно прышло з поўнай паспяховасцю, дапамагаць на зборах звяна адстаючай па вучобе піонерцы Марчанка.

2. Вывучыць звяном авіямадэльную справу.

3. Выпусціць сумесна з Палуянавым (рэдактар атраднай газеты, член 2-га звяна) адзін нумар газеты.

4. Праводзіць звяно весела і цікава: падрыхтоўваць шарады, загадкі, рэбусы, рабіць калектыўныя паходы ў кіно, тэатр, вылазкі на лыжах, катанні на каньках і т. д.

Пасля абгаварэння ўзятых абавязацельстваў пачынаюцца мастацкія выступленні, песні, танцы пад грамафон, пад гітару.

З бадзёрым радасным настроем, пасля доўгіх скокаў і гульняў разыходзіліся дадому піонеры.

*М. І. Панкоў*

*Цэнтральны навукова-даследчы Інстытут політэхнічнай асветы*

# Тэхнічная цацка

## I клас

Па змененаму к пачатку 1934—35 навучальнага года тэксту праграмы па працы (гл. журнал „Начальная школа“ № 9) у 1-м класе адводзіцца 38 гадзін (у гарадской школе) і 35 гадзін (у сельскай школе) на выраб дзіцячых цацак. У праграме паказаны аб'екты дзіцячых работ і пералічаны матэрыялы, з якіх гэтыя аб'екты рабіць.

Зразумела, што на першых занятках ні ў якім выпадку нельга даваць дзецям складаныя аб'екты, а таксама ўводзіць у работу многа матэрыялу (хоць-бы і поўапрацаванага, поўфабрыката), скарыстоўваць які рэкамендуецца праграмай. Скарыстоўваючы той ці іншы матэрыял, вучні павінны прарабіць з ім тыя ці іншыя аперацыі, павінны навучыцца ўладаць пэўным інструментам. Праўда, інструментаў у 1-м класе даецца не многа: шыла, нож, малаток, абцугі, нажніцы і лінейка. Аднак і гэты невялікі набор інструмента патрабуе часу на азнаямленне і яго асваенне. Таму ні ў якім выпадку нельга даваць у рукі вучням увесь інструмент адразу. Гэта дэзарганізуе работу. Аўладанне інструментамі, прыёмамі работы, таксама як і фармальнымі ведамі, павінна весціся ў пэўнай паслядоўнасці. Пры гэтым неабходна ўлічваць навыкі, якія ёсць у дзяцей, а таксама і фармальныя веды. Так сантыметравую лінейку для вымярэння можна даць толькі тады, калі вучні на ўроках матэматыкі дастаткова аўладалі лічэннем у межах 20 і азнаёміліся з сантыметрам.

На першых занятках у рукі вучняў даецца толькі адзін інструмент. На наступных занятках або праз адны, двое заняткаў даецца яшчэ адзін інструмент і т. д.

Уводзячы новы інструмент, выкладчык аб'ясняе яго будову і паказвае як ім працаваць. У час практычных работ дабіваецца таго, каб усе вучні навучыліся правільна карыстацца інструментам, захоўвалі правільную хватку інструмента і правільную рабочую позу.

Першыя аб'екты дзіцячых работ павінны быць простыя, працэс вырабу іх, аперацыі нескладаныя, але цацкі павінны быць дзейнічаючымі. Яны павінны задавальняць дзяцей эмацыянальна, павінны быць красачнымі. У якасці матэрыялу для першых работ трэба скарыстаць галоўным чынам дрэва, прычым абавязкова падрыхтаванае (пэўных размераў планкі, дошчачкі, брускі), на што ўказваецца і ў самой праграме. Калі струганага матэрыялу няма, то для невялікіх вырабаў можна

скарыстоўваць колаты матэрыял. Падрыхтаваць яго лёгка. Для гэтага трэба адпілаваць ад прамаслойнай дошкі або палена чуркі і накалоць з іх патрэбных размераў пласцінкі, дранкі, лучыны.

У 1-м класе вучні знаёмяцца з наступнымі аперацыямі па апрацоўцы дрэва:

а) рэзанне дрэва нажом удоўж валокнаў;
б) рэзанае дрэва нажом наўскос і папярок валокнаў;
в) пракручванне дзіркі шылам;
г) расколванне дрэва;
д) злучэнне дрэва цвікамі нерухомае;
е) злучэнне дрэва цвікамі рухомае;
ж) аддзелка паверхні (шкуркай);
з) афарбоўка паверхні анілінавай фарбай.

Пасля асваення дзецьмі даных аперацый, або хоць-бы першай часткі іх, можна ўжо ўводзіць і іншыя матэрыялы ў камбінацыі з дрэвам. Найбольш мэтазгодна адведзеныя ў праграме гадзіны размеркаваць такім чынам:

І-я частка—Цацкі (галоўным чынам з дрэва) . . . . . 18 гадзін
ІІ-я „ Транспартныя цацкі (з камбінаванага матарыялу-поўфабрыкатаў . . . . . 20 гадзін.

Асноўная ўстаноўка работы ў першай частцы—паказаць прыёмы работы па дрэву, на аб'ектах, якія цікавы для дзяцей і развіваюць іх дапытлівасць.

Устаноўка работы ў другой частцы—канструяванне транспартных цацак, скарыстоўваючы ў рабоце рознастайны бытавы матэрыял і поўфабрыкаты. Зразумела, што і ў другой частцы работы вучні практыкуюцца ў прыёмах, з якімі яны азнаёмлены як па апрацоўцы дрэва, так і па апрацоўцы паперы, тканіны.

З указаных у праграме аб'ектаў дзіцячых работ можна выдзеліць для першай часткі работы наступныя: ваўчок, жужалка, муха, млын.

Можна ўзяць і рад іншых аб'ектаў. Намечаныя для работы аб'екты неабходна распалажыць у парадку складанасці іх вырабу, у парадку нарастання аперацый, з якімі вучні знаёмяцца ў 1-м класе.

У прыведзенай ніжэй табліцы даецца распалажэнне аб'ектаў:

Табл. 1.

| №№ па парадку | Аб'екты | Разметка па шаблону | Пракручванне дзіркі шылам | Рэзанне нажом удоўж валокнаў | Рэзанне нажом на ўскос і папярок валокнаў | Расколванне | Злуч. дрэва (не рухом). | Злуч. дрэва (рухом.) | Аддзелка паверхні (зачыстка шкуркай) | Афарбоўка паверхні | Аперацыі, якія выконваюцца пры вырабе даных аб'ектаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Жужалка . . . | 1 | 1 | — | — | — | — | — | 1 | 1 | |
| 2 | Жужалка з вострымі кромкамі . . . | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | 1 | 1 | |
| 3 | Вяртушка . . | 1 | 1 | 1 | 1 | — | — | 1 | 1 | 1 | |
| 4 | Муха . . . . | 1 | 1 | 1 | 1 | — | 1 | — | 1 | 1 | |
| 5 | Семафор . . . | 1 | 1 | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 1 | 1 | |
| 6 | Кавалі . . . | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | |
| 7 | Гімнаст . . . | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | |

Прыведзеныя ў табліцы аб'екты з'яўляюцца арыентыровачнымі. Зусім не абвязкова рабіць выключна толькі гэтыя аб'екты. Можна даць вучням зрабіць і рад іншых вучэбных і гульнявых дапаможнікаў—палачкі для лічэння, палачкі для флажкоў, ваўчок і інш. Неабходна толькі, каб пры вырабе гэтых аб'ектаў вучні знаёміліся з аперацыямі, якія адпавядаюць 1-му класу. Пажадана таксама, каб у далейшых аб'ектах былі аперацыі, з якімі вучні ўжо азнаёмлены. Прарабляючы знаёмыя аперацыі, вучні практыкуюцца ў іх, замацоўваюць і выпрацоўваюць уменні.

К пачатку работы з вучнямі неабходна мець узоры вырабаў для дэманстрацыі. Частку гэтых узораў карысна мець вялікага размеру—у 2—3 разы большыя, чым будуць рабіць вучні.

Першую частку работы (18 гадзін) можна спланаваць наступным парадкам:

### 1-я заняткі—2 гадзіны

Мэта: зрабіць цацку „жужалка". Азнаёміць вучняў з разметкай па шаблону і работай шылам.

Абсталяванне:

| | |
|---|---|
| 1. Цацка „жужалка" | 1 |
| 2. Шылы кароткія (з заточаным на 3 грані канцом) на кожнага вучня | 1 |
| 3. Шаблоны жужалкі з шчыльнай паперы | 1 |
| 4. Кісці дробныя | 1 |
| 5. Пласцінкі драўляныя размерам 5×20×110 *мм* | 1 |
| 6. Шнурок або нітка суравая тоўстая па 1,1 *м* | 1 |
| 7. Шкурка шкляная | ½ ліста |
| 8. Фарба анілінавая 2—4 колеры (разведзеная) | ¾ шклянкі |

**План работы**

I. Уступная гутарка . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.

Азнаямленне дзяцей з прадстаячымі работамі і арганізацыяй работы Замацаванне рабочых месц. Парадак атрымання і здачы інструмента матэрыялу і вырабаў.

II. Гутарка з дэманстрацыяй . . . . . . . . . 5 мін.

Дэманстрацыя цацкі „жужалка" і аб'ясненне яе дзеяння.

III. Інструктаж . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.

а) Азнаямленне з парадкам вырабу цацкі;
б) паказ разметкі адтулін па шаблону;
в) паказ пракручвання дзіркі шылам.

IV. Практычная работа . . . . . . . . . . . . 20 мін.

а) выраб цацкі;
б) выпрабаванне цацкі (прывядзенне ў дзеянне)

V. Інструктаж . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.

а) паказ аддзелкі паверхні вырабу шкуркай;
б) паказ афарбоўкі паверхні вырабу анілінавай фарбай.

VI. Практычная работа . . . . . . . . . . . . 25 мін.

а) аддзелка паверхні цацкі шкуркай і афарбоўка;
б) выпрабаванне цацкі.

VII. Падвядзенне вынікаў работы і прывядзенне ў парадак рабочых месц . . . . . . . . 10 мін.

Работа вядзецца франтальна. Пры разметцы на драўлянай пласцінцы дзірак, увага вучняў звяртаецца на тое, што шаблон (папяровую палоску) трэба накладаць як мага з большай дакладнасцю. Пры пракручванні

дзіркі шыла трымаць прама (адвесна) і не націскаць ім моцна. Шыла ўзяць з канцом заточаным на 3 грані.

Пры наяўнасці драўлянай пласцінкі дакладных размераў 20 $\times$ 110 *мм* разметку дзірак можна зрабіць з дапамогай вузкай папяровай палоскі размерам 10 $\times$ 50 *мм*. Налажыць палоску на драўляную пласцінку поравень з кромкамі аднаго канца і каля вольнага вугалка папяровай палоскі зрабіць адзнаку. Затым налажыць палоску з другога канца і зноў адзначыць.

Пасля вырабу цацкі кожнаму вучню даецца магчымасць абыграць яе, навучыцца яе заводзіць.

**2-ія заняткі – 2 гадзіны**

Мэта: Зрабіць цацку жужалка з вострымі кромкамі.
Азнаёміць вучняў з работай нажом.

Абсталяванне

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Цацка „жужалка" на кожнага вучня | 1 |
| 2. | Шылы кароткія | 1 |
| 3. | Нажы | 1 |
| 4. | Шаблоны для разметкі адтуліны | 1 |
| 5. | Кісці | 1 |
| 6. | Пласцінкі драўляныя размерам 5 $\times$ 20 $\times$ 110 *мм* | 1 |
| 7. | Лучыны таўшчынёй 10 *мм*, даўжынёй 200 *мм* | 1 |
| 8. | Нітка суравая тоўстая па 1,1 *м* | 1 |
| 9. | Шкурка шкляная | 1 ліст |
| 10. | Фарба анілінавая 2—4 колеры | ¾ шклянкі |

**План работы**

I. Гутарка з дэманстрацыяй . . . . . . . . . . 5 мін.
Дэманстрацыя цацкі „жужалка" і выяўленне яе адрознення ад цацкі, зробленай на мінулых занятках.

II. Інструктаж . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.
а) азнаямленне з парадкам вырабу цацкі;
б) азнаямленне з устройствам нажа;
в) паказ прыёму стругання нажом;

III. Практычная работа . . . . . . . . . . . . 65 мін.
а) выраб „жужалкі";
б) выраб 2-х круглых палачак для канцоў шнура;
в) аддзелка паверхні цацкі шкуркай;
г) зборка цацкі;
д) выпрабаванне цацкі;
е) афарбоўка.

IV. Падвядзенне вынікаў работы і прывядзенне ў парадак рабочых месц . . . . . . . . . . . . 10 мін.

Пасля таго, як цацка зроблена і выпрабавана, яна параўноўваецца з цацкай, зробленай на мінулых занятках. Перад вучнямі ставяцца пытанні: чаму гэта жужалка дзейнічае лепш, чым яна адрозніваецца па свайму выгляду ад першай і т. д. Вучні падводзяцца да вываду, што вострыя канты жужалкі лепш разразаюць паветра.

У цацках, якія дзейнічаюць дрэнна, знаходзяцца прычыны дрэннай іх работы. У адных выпадках гэта з'явілася ў выніку перакосу шнура, адна столка ўзята даўжэйшая за другую, або шнур узяты вельмі цвёрды, у другім выпадку ў выніку таго, што адтуліны зроблены не на аднолькавай адлегласці ад канцоў, або яны зроблены занадта вялікія. Пры афарбоўцы частка жужалак афарбоўваецца каляровымі палосамі ўпоперак. Пры вярчэнні жужалкі палосы зліваюцца ў кругі, што робіць вялікі эфект.

**3-я заняткі—2 гадзіны**

Мэта: Зрабіць цацку „вяртушка“ і азнаёміць з яе дзеяннем. Азнаёміць з работай малатком.

Абсталяванне:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Цацка „вяртушка“ | 1 |
| 2. | Шаблон для разметкі адтуліны (з шчыльнай паперы) на кожнага вучня | 1 |
| 3. | Шылы кароткія | 1 |
| 4. | Нажы | 1 |
| 5. | Кісці | 1 |
| 6. | Пласцінкі драўляныя таўшчынёй 5—8 *мм*, шырынёй 20 *мм*, даўжынёй—120 *мм* | 1 |
| 7. | Брускі або лучыны сячэннем 10—15 *мм*, даўжынёй 100 *мм* | 1 |
| 8. | Брускі або лучыны сячэннем 10—15 *мм*, даўжынёй 200 *мм* | 1 |
| 9. | Цвікі даўжынёй 25—30 *мм* па 2 шт. на кожнага вучня | |
| 10. | Шкурка | 1 ліст |
| 11. | Фарба анілінавая 2—4 колеры | 3/4 шклянкі |

**План работы:**

I. Гутарка з дэманстрацыяй . . . . . . . . . . 5 мін.
Дэманстрацыя цацкі „вяртушка“ і аб'ясненне яе работы.

II. Інструктаж . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.
а) азнаямленне з парадкам вырабу цацкі;
б) азнаямленне з устройствам малатка;
в) паказ прыёму работы малатком (забіванне цвіка).

III. Практычная работа . . . . . . . . . . . . . 65 мін.
а) выраб вяртушкі (разметка, пракручванне дзіркі, зразанне паверхней, аддзелка шкуркай);
б) выраб ручкі (струганне нажом і аддзелка шкуркай);
в) зборка цацкі (змацаванне цвікамі);
г) выпрабаванне;
д) афарбоўка.

IV. Падвядзенне вынікаў работы і прывядзенне ў парадак рабочых месц . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.

Пры вырабе лопасцей вяртушкі стружку нажом трэба браць невялікую. Пачаць зразаць трэба не ад сярэдзіны, а ад канцоў і паступова ісці к сярэдзіне, інакш можна скалоць частку лопасці. Адтуліны ў сярэдзіне (цэнтры) вяртушкі трэба зрабіць такой велічыні, каб вяртушка лёгка круцілася на цвічку, якім яна будзе прыбіта да ручкі. Каб зменшыць трэнне пры вярчэнні, трэба між вяртушкай і ручкай пралажыць шайбу (з бляхі) або пацерку. Калі з такой цацкай бегчы, выставіўшы яе наперад, то вяртушка будзе хутка круціцца. У ветраны дзень выпрабаванне работы цацкі мэтазгодна правесці і на вуліцы. У гэтым выпадку перад вучнямі можна паставіць рад пытанняў, напрыклад: „Што прыводзіць у рух вяртушку? Ці круцілася па ветру наша вяртушка, калі-б мы не зрэзалі ў ёй наўскос лопасці?“ (Зробленую вяртушку можа выставіць потым на вецер.)

**4-я заняткі—2 гадзіны**

Мэта: Зрабіць цацку „муха“ і азнаёміць з яе работай. Практыкаванне ў струганні нажом і пракручванні дзіркі шылам.

Абсталяванне:

1. Цацка „муха“ на кожнага вучня . . . . . 1
2. Нажы . . . . . . . . . . . . . . . 1
3. Шылы . . . . . . . . . . . . . . . . 1
4. Шаблоны для разметкі дзірак . . . . . 1
5. Кісці . . . . . . . . . . . . . . . 1
6. Пласцінкі драўляныя таўшчынёй 5—8 *мм*, шырынёй 20 *мм*, даўжынёй 160 *мм* на кожнага вучня . . . 1
7. Брусок або лучына сячэннем 10 *мм* даўжынёй 200 *мм* . . . . . . . . . . . . . . 1
8. Шкурка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1 ліст
9. Фарба анілінавая 2 колеры . . . . . . . . . . . . 1/2 шклянкі

**План работы:**

I. Гутарка з дэманстрацыямі . . . . . . . . . . . 5 мін.
Дэманстрацыя цацкі „муха“ і аб'ясненне яе дзеяння.

II. Інструктаж . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5 мін.
Азнаямленне з парадкам вырабу цацкі „муха“.

III. Практычная работа . . . . . . . . . . . . . . . 70 мін.
а) выраб лопасці (разметка, пракручванне дзіркі, зразанне паверхней, аддзелка шкуркай);
б) выраб круглай палачкі (струганне нажом і аддзелка шкуркай);
в) зборка цацкі;
г) выпрабаванне;
д) афарбоўка.

IV. Падвядзенне вынікаў работы і прывядзенне ў парадак рабочых месц . . . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.

Для вырабу цацкі „муха“ трэба ўзяць мяккую пароду дрэва: ліпу, асіну. Лопасці неабходна апрацаваць больш старанна, чым у цацкі „вяртушка“. Палачка павінна быць круглай, тонкай. Канец палачкі, якім яна ўстаўляецца ў адтуліну, павінен быць зрэзан на конус адхонна. У гэтым выпадку яго шчыльней можна ўставіць у адтуліну. Цацка не павінна быць цяжкай. Чым лягчэйшая яна і лепш будзе зроблена, тым вышэй яна будзе ўзлятаць.

Пасля выпрабавання цацак—пуску ўверх—трэба выбраць лепшыя і пусціць іх гарызантальна. У час выпрабавання цацак выклікаць вучняў на жывую гутарку, паставіўшы перад імі рад пытанняў, напрыклад, ці ведаюць яны машыны (і якія), што лётаюць у паветры. Хто з вучняў бачыў зблізка аэраплан. Што ёсць у аэраплане наперадзе. Ці відаць прапелер, калі аэраплан ляціць. Што робіць прапелер у час палёту (круціцца). З гутаркі і выпрабавання цацкі робяцца вывады. Наша „муха“ падобна да прапелера. Мы яе закруцілі і пусцілі. Пакуль яна круцілася, то ляцела наперад.

**5-я заняткі—2 гадзіны**

Мэта: Зрабіць цацку „семафор“. Азнаёміць са злучэннем дрэва рухома і нерухома (на цвіках).

Абсталяванне:

1. Цацка „семафор“ на кожнага вучня . . . 1
2. Нажы . . . . . . . . . . . . . . . . 1

3. Шылы кароткія . . . . . . . . . . . . . . . . 1
4. Малаткі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1
5. Кісці . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1
6. Пласцінкі драўляныя размерам 5×20×120 *мм* . . 1
7. Брусок або лучына сячэннем 15 *мм*, даўжынёй 300 *мм* . 1
8. Брусок сячэннем 30 *мм*, даўжынёй 120 *мм* . . . . 1
9. Цвікі даўжынёй 25—40 *мм* . . па 4 штукі на кожнага вучня
10. Ніткі шпулькавыя даўжынёй 0,4 *м*
11. Шкурка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ½ ліста
12. Фарба анілінавая 2 колеры (чырвоная і інш.) ½ шклянкі

**План работы:**

I. Гутарка з дэманстрацыямі . . . . . . . . . . 5 мін.

Дэманстрацыя цацкі „семафор“ і абʻясненне яе.

II. Інструктаж . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5 мін.

Азнаямленне з парадкам вырабу цацкі.

III. Практычная работа . . . . . . . . . . . . . . . 70 мін.

а) выраб крыла (разметка канца з кружком, выстругванне крыла нажом, пракручванне дзіркі на другім канцы, аддзелка паверхні шкуркай;
б) выраб мачты (нерухомае злучэнне брускоў у накладку);
в) зборка цацкі;
г) выпрабаванне;
д) афарбоўка.

IV. Падвядзенне вынікаў работы і прывядзенне ў парадак рабочых месц . . . . . . . . . . . . . . . 10 мін.

На гэтых занятках увага вучняў звяртаецца на наступныя моманты

1. Пры злучэнні з дапамогай цвікоў двух кавалкаў дрэва нельга набіваць цвікоў многа і як папала.

2. Спачатку трэба намеціць месцы для цвікоў (злёгку наколоць шылам) і ўжо пасля гэтага забіваць іх.

3. Калі два кавалкі дрэва трэба злучыць моцна, нерухома, то трэба ўбіць не менш двух цвікоў. Вышаўшыя на другі бок канцы цвікоў трэба загнуць.

Пры вырабе цацкі „семафор“ кружок на канцы крыла можна намеціць пры дапамозе двухкапеечнай манеты або гузіка адпаведнай велічыні. Дзірку ў крыле для цвіка, якім крыло прымацоўваецца да мачты, трэба зрабіць такой велічыні, каб крыло лёгка круцілася, магло апускацца ўніз ад сваёй вагі. Кружок на крыле трэба афарбаваць у чырвоны колер. Цацку можна цікава абыграць, калі вучні зробяць мадэлі чыгуначнага транспарта. Крыло, паднятае ўверх пад вуглом 45° к гарызонту, паказвае, што шлях свабодны, а крыло, пастаўленае гарызантальна, загадвае спыніцца.

### 6, 7 і 8-ыя заняткі—6 гадзін

Мэта: Зрабіць цацкі „кавалі“, „гімнаст“.

Практыкаванне ў струганні дрэва нажом, пракручванні дзірак шылам і злучэнні дрэва (рухома і нерухома).

Абсталяванне:

1. Цацкі „кавалі“, „гімнаст“ на кожнага вучня . . . 1
2. Нажы „ . . . 1
3. Шылы „ . . . 1
4. Малаткі „ . . . 1
5. Кісці „ . . . 1

6. Планкі, брускі або лучыны сячэннем 15—20 *мм*, даўжынёй 300 *мм* . . па 4 шт. на кожнага вучня.
7. Планкі, брускі або чуркі даўжынёй 30, 80, 100 *мм* кожнага размеру на кожнага па аднаму.
8. Цвікі даўжынёй 15, 20, 30 *мм* . . . . . . . . . . . . 200 *г*
9. Ніткі суравыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10 *м*
10. Шкурка шкляная . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1 ліст
11. Фарба анілінавая 2—4 колеры . . . . . . . . . 1 шклянка

На гэтых занятках, як і на папярэдніх, спачатку дэманструецца цацка, расказваецца як яна зроблена, пасля чаго ўжо вучні прыступаюць да работы. Матэрыял для дробных дэталей цацак вучні робяць самі, шляхам расколвання брускоў, чурак на адпаведныя планкі, брусочкі. Як раскалоць дрэва пры дапамозе нажа і малатка, спачатку паказвае выкладчык. У час практычных работ выкладчык сочыць за рабочай позай вучняў і правільнай хваткай інструмента, своечасова выпраўляе памылкі і аказвае дапамогу.

У цацкі „кавалі“ касцяк тулава чалавечкаў робіцца з планак, на якія наклейваюцца выразаныя з шчыльнай паперы фігуркі. Робяць (рысуюць і выразаюць) фігуркі вучні дома або на ўроках рысавання.

У цацкі „гімнаст“ змацаванне рук і ног з тулавам робіцца пры дапамозе тонкага дроту або суравой ніткі, на канцах якой падвязваюцца: пацеркі, кавалачкі кардону або запалак.

**9-я занятки—2 гадзіны**

Мэта: Падвесці вынікі работы.

Абсталяванне:

1. Цацкі, зробленыя вучнямі.
2. Інструмент і матэрыял мінулых заняткаў.

**План работы**

I. Практычная работа . . . . . . . . . . . . . . . 45 мін.

Заканчэнне незакончаных вырабаў, выпраўленне, рэгулёўка, афарбоўка.

II. Падвядзенне вынікаў работы . . . . . . . . 45 мін.

а) выяўленне, аб чым даведаліся і чаму навучыліся вучні ў час работы (жывая гутарка);
б) ацэнка работ;
в) адбор аб'ектаў для падарунка ў дзіцячы сад і для выстаўкі.

На апошніх занятках вучні падводзяцца да наступных вывадаў і абагульненняў на аснове канкрэтнага матэрыялу і іх асабістага вопыту.

—„Рэзаць дрэва нажом папярок (валокнаў) цяжэй, чым удоўж. Дрэва расколваецца. Дрэва ўбірае ў сябе фарбу. Дрэва гарыць“.

Пры атрыманні гэтых вывадаў перад вучнямі ставіцца рад пытанняў прыкладна такога зместу: З якіх матэрыялаў мы рабілі цацкі? Што мы рабілі з дрэвам? Ці аднолькава лёгка рэзаць дрэва па ўсіх кірунках? Як цяжэй за ўсё рэзаць? Што робіцца з драўлянай планкай, калі каля самага канца забіваеш тоўсты цвік і т. д.

Адначасова вучні апытваюцца, што яны даведаліся аб інструменце, якім працавалі. Як трымаць шыла пры пракручванні дзіркі. Як трымаць нож пры струганні. Як трымаць малаток пры забіванні цвікоў.

Пры падвядзенні вынікаў усёй работы ацэньваецца работа кожнага вучня паасобку, адзначаюцца недахопы і рост. Высняецца, хто і што зрабіў сам дома.

Пасля адбору вырабаў для падарунку ў дзіцячы сад і для выстаўкі астатнія вырабы раздаюцца вучням для гульні дома, падарунку сваім малодшым таварышам.

*К. Ермак*

# З вопыту работы Крукаўскай НСШ

Крукаўская НСШ з'яўляецца адной з лепшых школ Камарынскага раёна. На працягу двух апошніх год гэта школа ўдзельнічала ў конкурсах і атрымлівала першыя прэміі. Частка настаўнікаў школы (Разанскі і Панамарчук) прэміраваны і пасланы на вучобу.

Дзякуючы сваёй узорнай рабоце сярод вучняў і насельніцтва школа стала цэнтрам увагі, заваявала вялікі аўтарытэт сярод акружаючых працоўных мас.

Сярод вучняў і настаўнікаў школы шырока разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Асновай соцабавязацельстваў з'яўляецца забеспячэнне штодзённай работы, выкананне пастаноў партыі і ўрада аб школе.

Школа мае рад дасягненняў у справе комуністычнага выхавання. Вучні, бацькі якіх з'яўляюцца яшчэ аднаасобнікамі, змагаюцца за ўступленне іх у калгас. Вучні-ж калгаснікі паказваюць лепшыя ўзоры барацьбы за тое, каб іх бацькі-калгаснікі сталі першымі і лепшымі ўдарнікамі ў калгасе. У школе наладжана і належным чынам абсталявана дошка выразак з газет. Яна штодзённа запаўняецца адпаведным матэрыялам і дае магчымасць кожнаму вучню быць у курсе як міжнароднага становішча, так і ўнутранага жыцця і будаўніцтва ў СССР. У кожным класе ёсць дошкі соцспаборніцтва, дзе азначаюцца ход і вынікі соцспаборніцтва.

Школа праводзіць рад конкурсаў: конкурс на лепшы, акуратны, чысты і граматны сшытак, лепшы рысунак, заметку ў насценгазету. Сярод настаўнікаў таксама абвешчан конкурс на лепшага класнага настаўніка.

Пры праверцы хатніх умоў вучняў выявілася, што паасобныя вучні карыстаюцца значным аўтарытэтам сярод насельніцтва.

Аднаго разу ў выхадны дзень дырэктар школы т. Карпаў, зайшоўшы на кватэру вучня Майсюка, застаў яго гуляючым з маткай у шашкі. Усхваляваная матка, запрасіўшы дырэктара сесці, гаворыць: „Гэта-ж вось сын навучыў гуляць у шашкі, а яно ї не дрэнная справа... Ды і наогул мяне сын перарабляе. Раней я хату бяліла толькі к вялікадню, калядам, к прыходу папа, а зараз сын жыць не дае: кажа, што па яго ўмове соцспаборніцтва хата павінна быць заўсёды чыстай, падлога вымытай, кругом парадак, а ён павінен мець асобны ручнік, ложак, зубную шчотку. Вопратка павінна быць чыстай і ахайнай. Усё гэта я яму даю, бо ён у мяне вельмі добры".

Апрача настаўнікаў быту вучняў вялікую ўвагу ўдзяляюць газета і школьныя арганізацыі. Перыядычна арганізоўваюцца вучнёўскія брыгады па праверцы хатніх умоў вучня. Гэтыя брыгады не толькі робяць праверку, але і дапамагаюць вучню выжыць з яго хаты антысанітарыю, некультурнасць шляхам правядзення на гэту тэму гутарак з бацькамі і т. д.

Так працуе настаўніцкі калектыў і вучні Крукаўскай НСШ.

*Я. Карлінскі*

# Заўвагі да „Пропісяў“ К. С. Маеўскага

**К. С. Маеўскі. Элементарны курс навучання пісьму. Пропісь. Другі клас. Зацверджана НКА БССР, 1935 г.**

Пісьмо ёсць сродак сувязі паміж людзьмі. І чым гэты сродак прасцейшы і выразнейшы, тым лепш ім карыстацца. Таму, як самыя літары, так і сувязь між імі павінны быць простымі без лішніх кручкоў і завітушак.

Такія патрабаванні да пісьма вызначаюць яго змест і метады выкладання, якімі павінны быць прасякнуты ўсе „пропісі“.

Што-ж датычыць пропісі К. С. Маеўскага, то тут у злучэннях між словамі хоць і сустракаюцца штучныя завітушкі, але агульны выгляд пропісі здавальняючы.

Станоўчы бок пропісі К. С. Маеўскага і заключаецца ў чоткасці элементаў літар. Гэта—аснова данага падручніка. Але задачу гэту можна вырашыць на чатырох-пяці старонках сшытка. Гэтак вышла і ў К. С. Маеўскага. Асноўны матэрыял пропісі змешчан у яго на першых сямі старонках, астатнія-ж 25 старонак настолькі аднастайны, што новага вучню нічога не даюць, а толькі псуюць падручнік паказам нядбайных узораў пісьма.

Самае горшае ў падручніку тое, што аўтар, баючыся пераносіць часткі слоў з аднаго радка ў другі, давёў сваю работу да выгляду сучасных сшыткаў, якія назіраюцца ў нядбайных вучняў, дзе правы бок старонкі сшытка паказвае на самыя неахайныя, самыя неэканомныя адносіны да паперы. Атрымліваецца ўражанне, што пропісь прывучае вучня да нядбайных адносін да пісьма. Гэты бок пропісі і прымушае нас прызнаць шкодным перадачу яе ў рукі вучняў, хоць такі значны тыраж як 30 000 экз. якраз і прадбачыць масавае скарыстанне пропісі вучнямі для спісвання.

Другая адмоўнасць пропісі—гэта сцісласць літараў у словах як на розных старонках, так і ў радках адной старонкі.

Лішнімі ў пропісі трэба лічыць і злучэнні, якія займаюць 2 і 3 радкі знізу 3-й старонкі, амаль усю 4-ю старонку і звыш паловы 5-й старонкі, бо як прыведзеныя тут элементы, так і злучэнні элементаў у нашых літарах і словах не сустракаюцца.

Наогул пропісі трэба складаць, маючы арыентацыю на сапраўднае простае і выразнае пісьмо, з паступовым пераходам ад простых і лёгкіх да складаных і цяжкіх частак. Замест пісання асобна штучных элементаў, трэба даваць іх у сувязі, у словах, удачна падабраных для мэт каліграфіі.

---

# ЗМЕСТ





---

Рэдкалегія: **Баршчэўская, Бацкевіч, Гурло, Дардак, Лешчынскі Панкевіч, Фрэйдман** (нам. адк. рэдактара).

Адрас рэдакцыі: г. Менск, Дом Урада, Наркомасветы, пакой № 556, тэл. № 24-591.

Нам. рэдактара *І. Фрэйдман* Тэхрэдактар *І. Белкін*
Літпраўка *Жывіца* Карэктар *Сечэйка*

Здана ў друкарню 14/VII—35 г. Падпісана да друку 16/VIII. Аб'ём $3^3/_4$ друкаваных аркушаў. Папера $62 \times 94^1/_{16}$. Знакаў у друкаваным аркушы 64.000. Тыраж 8.000 экз.
Зак. № 681. Уп. Галоўлітбела № Б 3383.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

